# Алесь Петрашкевіч

*(нар. у 1930 г.)*

## Прарок для Айчыны

*Гістарычная драма*

### ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

**Скарына Францыск.**
**Максім Грэк.**
**Жыгімонт І Стары** — кароль Польшчы і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага.
**Бона Сфорца** — каралева.
**Гаштольд** — канцлер.
**Ян** — епіскап віленскі.
**Альбрэхт** — герцаг прускі.
**Вартаўнік.**
**Чалавек у чорным.**
**Маргарыта** — жонка Скарыны.
**Раман** — пляменнік Скарыны.
**Іван** — брат Скарыны.
**Бабіч Якуб** — найстаршы бурмістр Вільні.
**Астрожскі Канстанцін** — гетман Вялікага княства Літоўскага.
**Гусоўскі Мікола** — паэт.
**Лонгій Мацей** — паверананы Скарыны.
**Скаргардыян Валянцін** — бурмістр Познані.
**Войт.**
**Лаўнікі і радцы.**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### I

Познань. У цеснай вязніцы на драўлянай лаве, прыкаванай да сцяны, сядзіць Скарына. Замест вопраткі на небараку лахманы. Ён паднімае галаву, прыслухоўваецца. Здалёк чуецца сумная-сумная песня.

Як было ў мамкі да тры донькі,
Да пайшлі ж яны ў бор па ягадкі.
Адна донька ўтапілася,
Другую доньку звяры з'елі.
Другую доньку звяры з'елі,
Трэцюю доньку татары ўкралі...

Скарына сціскае галаву рукамі. Лязгаюць запоры. Адкрываюцца дзверы. Уваходзіць Вартаўнік. Ён прыносіць ваду і хлеб і моўчкі падае вязню. Той бярэ прынесенае, з удзячнасцю схіляе галаву. Есць няспешна, з павагаю да вады і хлеба. Вартаўнік назірае за ім.

Вартаўнік. Чы пан зна цэнэ хлеба?

Скарына. Так, пан ведае цану хлебу...

Вартаўнік *(пасля паўзы)*. Валацуга?..

Скарына. Валацуга... ды яшчэ які...

Вартаўнік. Далёканька ж цябе занесла, небога...

Скарына. Мяне яшчэ не так заносіла...

Вартаўнік. Выходзіць, пабачыў свету?

Скарына. Пабачыў, хоць і не так многа, як бы хацелася...

Вартаўнік. І дзе ж цябе яшчэ нялёгкая насіла?

Скарына. Калі мне было гадоў 14, занесла ў Кракаў да палякаў, а як споўнілася 17, падаўся я ў Капенгаген да датчан, пасля 22-х апынуўся сярод італьянцаў у Падуі, адтуль накіраваўся ў Прагу да чэхаў, у 27 вярнуўся дамоў, потым занесла мяне ў

Вітэнберг да немцаў, у Кёнігсберг да прусакоў, а зараз, як бачыце, у Познань зноў да палякаў. Між іншым, Маскву таксама не абмінуў...

Вартаўнік *(з зайздрасцю і недаверам)*. Палётаў, голуб!..

Скарына. Палётаў бы яшчэ, ды крылы звязаны...

Вартаўнік *(нечакана)*. І ўсюды краў?..

Скарына *(здзіўлена)*. Чаму краў?..

Вартаўнік. Каб папрасіць, трэба ж ведаць панямецку, і па-дацку, і па-чэшску! А італьянцы?!.

Скарына. Я яшчэ магу прасіць па-руску, паграчаску, па-яўрэйску і на... латыні...

Вартаўнік *(з недаверам)*. Траплялiся мне прахвосты, а такіх, як ты, яшчэ не было!

Скарына. І не будзе!.. А мо ў наступным стагоддзі і народзяцца...

Вартаўнік. Але ж ты нарадзіўся?..

Скарына. Я апярэдзіў час... Гадоў гэтак на сто — паўтараста.

Вартаўнік. Прахвост няшчасны!..

Скарына *(без крыўды і нават з усмешкай)*. Памыляешся, шаноўны. Перад табой чэсны і... даволі шчаслівы чалавек...

Вартаўнік. Блазнаваты ты, а не шчаслівы. І ўпякуць цябе паны суддзі за валацужніцтва туды, дзе ты яшчэ не быў...

Скарына. Мяне не за валацужніцтва, мяне за даўгі ўпякуць.

Вартаўнік. І многа ты напазычаў?

Скарына. Кажуць, нібыта 206 коп грошаў.

Вартаўнік *(аж прысеў)*. Колькі?!.

Скарына. 206 коп.

Вартаўнік. Дык гэта ж статак коней. Такіх грошай у Лазара з Мойшам не будзе!

Скарына. Будзе!.. Калі з мяне суд спагоніць, то ў Лазара і Мойшы будзе больш якраз на 206 коп.

Вартаўнік *(з іроніяй)*. А ты часам не Радзівіл будзеш? Ці мо сам Сапега?..

Скарына. Бяры вышэй!

Вартаўнік. Дык жа некуды браць... вышэй.

Скарына. Сапраўды, вышэй некуды...

Вартаўнік. Ілгаць, братка, таксама трэба ўмець...

Скарына. Бадай што, трэба...

Вартаўнік. Тут і сумнявацца няма чаго, бо затаўкуць... Хочаш анекдот?.. Не бойся, не пра караля з каралеваю...

Скарына. Калі не пра караля, то хіба што...

Вартаўнік. Быў у нас такі Янка — ілгаў, не давядзі бог. Яму ўжо не тое што суседзі, родныя дзеці не верылі. Дык прыходзіць ён аднойчы да свайго дзядзькі, а той і кажа: салжы, пляменнічак, толькі гладка,— авечку дам. Няма, адказвае, часу лгаць,— бяры, дзядзька, венікі і прыходзь у лазню. Прыйшоў дзядзька з венікам, а лазня, вядома, не топленая. *(Весела рагоча.)* Я тут усялякіх нагледзеўся, але, калі шчыра,— ты мне даспадобы. Люблю вясёлых.

Скарына. Дзякуй на добрым слове.

Вартаўнік. Ілжы на здароўе — у мяне ўсё роўна авечкі няма. А хлеба дабаўлю.

Скарына. Шчыра дзякую.

Вартаўнік. Дзякуй на зуб не пакладзеш.

Скарына. Многа есці шкодна.

Вартаўнік. Сказаў бы нехта іншы, можа б, я і паверыў.

Скарына. Ты мне павер — я лекар.

Вартаўнік. Можа, ты яшчэ поп ці ксёндз? Тыя таксама пасты хваляць.

**Скарына.** Я і не поп, я і не ксёндз, хоць нейкае дачыненне да царквы і паствы маю... І, можа б, ты да кашталяна турмы схадзіў і сказаў яму, каб ён мне маю Біблію вярнуў. Скажы, з Богам захацеў даўжнік-бадзяга пагаварыць.

**Вартаўнік.** Там будзе відаць... А малаком я з табой падзялюся. Мне мае мальцы вечарам яшчэ прынясуць. Харошыя ў мяне мальцы растуць... што па-польску, што па-палачанску сякуць — аж ад зубоў адскоквае. І Псалтыр, як рэпу, грызуць...

**Скарына** *(нечакана)*. З полькай ажаніўся, а сам з Полацка будзеш?..

**Вартаўнік** *(насцярожана)*. А табе скуль ведаць?!

**Скарына.** Хлопцаў «мальцамі» называюць толькі на Полаччыне. Дзе ні быў — і ў Гародні, і ў Навагародку, у Нясвіжы, Міры, Слуцку, Клецку, Мазыры, Тураве — толькі хлопцы. А ў Полацку — мальцы.

**Вартаўнік.** Чаго не ведаў, таго не ведаў. А мальцы, яны і ёсць мальцы. Хлопцы — то ад халопаў. А каму халопам быць ахвота?

**Скарына.** Я і пра нятопленую лазню з авечкаю ў Полацку чуў. Землякі мы, выходзіць, з табою, служывы.

**Вартаўнік** *(адчужана, адступаючы да дзвярэй)*. Хопіць языком мянціць! А то ты да мяне і ў сваякі напросішся. Пры службе я — разумець трэба, і палёгкі не чакай. Палёгку суд дае, а я па-чалавечы паспачуваць магу. І граху ў тым не бачу. Якія б яны ні былі, а ўсе людзі — чалавекі. *(Забраўшы конаўку, выходзіць.)*

Грымяць запоры.

**Скарына** *(задуменна)*. Усе людзі — чалавекі... Усе людзі — чалавекі... Адкуль жа тыя здрада,

вераломства, ліхвярства, ілжывасць?.. Сам, сваёю рукою ў закон каралеўскі і велікакняжацкі першым артыкулам запісаў аб адказнасці за паклёпы і абгаворы. І тым не менш у турме не паклёпнік, а я, Францыск, сын Скарынін... у якасці валацугі, што збег ад даўгоў, якіх ніколі і ні ў кога не пазычаў. О свет! О людзі-чалавекі... Хіба не для вас законы ў душах вашых і на паперы напісаны для паспалітага добрага?!. *(Зноў чуе песню.)*

Ой, не так жаль тое, што ўтапілася,
Ой, не так жаль тое, што зверы з'елі.
Ой, не так жаль тое, што зверы з'елі,
Вельмі жаль тое, што татары ўкралі...

*(Садзіцца на лаву, заціскае вушы.)*

Святло згасае, у цемры з'яўляюцца прывіды Маргарыты, а потым Бабіча, Астрожскага, Максіма Грэка, Івана, Гусоўскага.

Маргарыта. Што ты клічаш мяне, любы? Хіба не ведаеш, што я два гады таму, як памерла? Калі б жывая была, хіба не прыйшла б? Хіба не прыбегла б? Зязюлькаю шэраю, галубкаю шызаю, ластаўкаю імкліваю не прыляцела б? А што не забыў — паклікаў, дзякуй. Ці ж не я была тваёю адзінаю, тваёю любаю? Ці ж не я была табе памочніцай і дарадчыцай? Ці ж не я нарадзіла табе двух сыночкаў? Кахала, як умела, аберагала, як магла. Толькі мінула маё лецейка. Як жа я адсюль дапамагу табе, любы мой, адзіны мой, гаротны мой?!. Цярпі! Трымайся! Ёсць жа Бог на свеце, хоць ты ніколі на яго вельмі не спадзяваўся. Да людзей найбольш былі твае малітвы. Ды не ўсе, відаць, іх слухалі. А сярод тых, што пачулі, як бачыш, звяры драпежныя трапіліся. Ад іх паратунку не чакай. Цяпер уся надзея на Якуба Бабіча... *(Знікае.)*

Бабіч. Адкуль ведаць табе, бедная жанчына, што ў хуткім часе і я пайшоў за табою. І карысці з Якуба Бабіча памерлага аніякае. Не крыўдуй. Не спадзявайся. Найстаршы бурмістр слаўнага горада Вільні бездапаможны. Не папракай, дружа,— справу тваю кніжную я падтрымліваў, колькі мог. Ганарыўся дружбай з табою, рад быў аддаць дом свой пад друкарню тваю, што была і застанецца першаю ў нашым краі. А што згарэла яна з домам маім — бяда вялікая і няўцешная, калі ж лічыць, што тры чвэрці самога горада згарэла... Дасць Бог, выблытаешся з цянётаў, пераможаш здраду і каварства і зноўку сваю вялікую справу распачнеш. Канстанціну Астрожскаму пакланіся. Гетман дапаможа. Ён міласнік царквы, школы і кнігі, якіх у княстве нашым мала. *(Знікае.)*

Астрожскі. Бабіч, Бабіч! Ведаць бы табе, што вялікі мор на Белай Русі следам за табой і мяне звёў у магілу. Якая ж карысць другу нашаму кланяцца памерлым? Яны ж дапамагчы не могуць.

Скарына *(як стогн)*. На Маскву, на цябе, Максім Грэк, былі ўсе мае спадзевы!..

Максім Грэк. Рады я, што памятаеш мяне, што не забыў сустрэчы нашы. Не здзіўляйся, што зайздрошчу лёсу твайму, хоць абодва мы ў няволі. Розніца толькі ў тым, што ты чацвёрты месяц, а я шосты год. А белая зайздрасць толькі з тае прычыны, што ты здзейсніў мару і справу свайго жыцця. На Маскве ж паміраюць за адзіную літару «аз». Мужайся і памятай, што на свеце ёсць людзі, якія маюць жыццё, але ўжо не маюць надзеі. А ты яшчэ жывы і, дасць Бог, Фартуна павернецца да цябе тварам. Мужайся, брат мой! *(Знікае.)*

З'яўляецца Іван Скарына.

**Скарына.** Што ж ты нарабіў, браце мой, Іване?! Хіба ж так здраджваюць родным?!

**Іван.** Не судзі мяне строга за тое, што пакінуў пасля сябе адны даўгі. Не згарэла б наша друкарня ў Вільні, і я, відаць, пажыў бы яшчэ. У полымі тым загінула твая мара, а мае грошы. Сэрца і не вытрымала нашага канчатковага краху. Калі дасць Бог сыну Раману разлічыцца з даўгамі і зноў паставіць на ногі купецкую справу і славу Скарынічаў, можа, ён табе і дапаможа. А можа, і не варта. Можа, пустое ўсё гэта, друкарства наша...

**Астрожскі** *(строга)*. Як жа можна так, Іван, сын Скарынін?! Мы з табою памерлі, а яму жыць, і справе кніжнай жыць! Не мне табе расказваць, як менавіта яна, кніга, школа, адукацыя, абнаўленне царквы ўскалыхнулі дзяржавы і вялікія, і малыя. Можа, ёй, асвеце, і суджана прымірыць людзей, пазбавіць вайны і смерці. Колькі жыў, столькі і ваяваў гетман Канстанцін Астрожскі. Больш за 60 разоў перамог крымчакоў на поўдні дзяржавы, не раз біў маскалёў на яе ўсходзе. Зведаў ганьбу палону ў вялікага князя маскоўскага. І ўцёк з яго, каб зноў змагацца з находнікамі і набежнікамі за непадлегласць дзяржавы нашае. А паміраючы, зразумеў: мала рупіўся князь Астрожскі аб справе мірнай, кніжнай, асветніцкай і святой, каб не звярэлі людзі, не зводзілі адзін аднаго са свету, не сеялі зайздрасць, ярасць і нянавісць. Паміраючы, зразумеў, што моц дзяржавы, яе сіла і годнасць не столькі ў моцы зброі, колькі ў моцы духу, згодзе, супольнасці, дружалюбстве.

**Іван.** Добра гаворыш, гетман, а што мы маем на справе? Выбітыя і вымерлыя сёлы, спустошаныя гарады, здратаваныя нівы і здзічэлыя гоні, занялы гандаль. А наперадзе новыя войны, паборы, ахвяры!.. Якія ўжо тут кнігі?!.

Асвятляецца Мікола Гусоўскі, а за ім і ўсе тыя, каго мы ўжо бачылі.

Скарына. Я чакаў цябе, Мікола!..

Гусоўскі. Цела маё амаль памерла, але душа яшчэ не адляцела. *(Пачынае чытаць па памяці.)*

«...Бачу я з найвялікшым для сябе жалем і, зразумела, з пэўнай стратай для дзяржавы, што славуцейшыя сэрцы зусім не паважаюцца. Яны з-за матэрыяльнай нястачы і беднасці цалкам не могуць сябе праявіць. Бачу я таксама, што ёсць нямала людзей, якія валодаюць і багаццем і талентам. Але калі яны заўважаюць, што вучоных, мастакоў і паэтаў так мала шануюць і паважаюць, то імкнуцца больш узбагачацца, чым ахарошваць душу...

Дзяржава абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць як грэкі, так і рымляне. Іх магутнасць квітнела найбольш тады, калі расцвіталі навукі. А як толькі пачалі нікнуць таленты, сілы іх згаслі, а з заняпадам апошніх абрушылася іх дзяржава і ўсталявалася рабства. Таксама і ў нас...

Хоць нам не ўласцівыя ні норавы, ні звычаі старажытных, аднак вечная сіла неба і мужнасць нашага воіна-ратніка не падвядуць, як справа дойдзе да зброі, калі толькі мы, бяззбройныя, не будзем раздушаны нейкім наканаваным няшчасцем, ці, ясней кажучы, спрытным круцельствам некаторых і сваёй бяздзейнасцю...»

Усе прывіды знікаюць. Вязніца патанае ў цемры. Чуваць толькі спеў Скарыны і Маргарыты:

Ой, скінусь я ды зязюлькаю,
Да маленькаю, да рабенькаю.
Да маленькаю, да рабенькаю.
Да маленькаю, да рабенькаю.
Да палячу ж я к доньцы ў госці...

## II

Сцэна асвятляецца.
У дзвярах стаіць Вартаўнік.

Вартаўнік. Спяваеш, няшчасны?..

Скарына *(цытуе па памяці)*. «В певнице ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум совершеный. Там ест милость и друголюбство без ильсти и вси иные добрые нравы, якобы со источника оттоле походять. ...Псалмы якобы сокровище всих драгих скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняють, чувствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають...»

Вартаўнік садзіцца на лаўку, доўга маўчыць. Відаць, словы Скарыны ўразілі яго.

Вартаўнік. Я таксама іншы раз спяваю... як вып'ю. Занятак у мяне, братачка, такі, што нікому добраму не пажадаеш... Бывае, што і вінаватых шкада, а не вінаватых яшчэ больш шкада. А паспрабуй разбярыся, як каго судзіць, калі суддзі іншы раз не могуць. Вось ты, галота няшчасная, а як цябе судзіць? То дурнем прыкідваешся, лухту нясеш, то Біблію просіш. Пра песню сказаў, як іншы і не змог бы. А колькі вас, няшчасных, прайшло перада мною. Я іншы раз і забойцу лічу няшчасным. Хіба чалавек ад радасці забівае? Даносы, злоба, паклёпы людзей і з дарогі і са свету зводзяць. Вось у песні пра дзяўчыну, што татары звезлі. А іх жа, такіх зязюлек нашых, тысячы тысячаў чумазлаі ў палон звозяць. А мы замест таго каб бараніцца су-

купна, між сабою тузаемся і адзін другога са свету зводзім. Зямля асірацелая крычыць нема, і людцы стогнуць. Усіх шкада... акрамя канакрадаў. Ты часам не канакрад?..

Скарына *(весела смяецца)*. Не, я горш...

Вартаўнік. Горш за канакрада нікога не бывае!

Скарына. Я бакалаўр, магістр і яшчэ ў навуках вольных і лекарстве доктар.

Вартаўнік *(устае з лаўкі, абыякава)*. Хопіць брахаць. А калі ўжо брэшаш, то меры не губляй. Я, між іншым, да цябе як да чалавека...

Скарына. Як да чалавека, кажаш, а Біблію не прынёс...

Вартаўнік *(задзірыста)*. Чаму гэта не прынёс? Цэлы стос прывалок. Кашталян адлічыў — аж дваццаць тры кнігі. І яшчэ дзве ў прыдачу, праўда, адна вельмі маленькая. *(Вымае з-за пазухі «Малую падарожную кніжку», аддае Скарыне.)*

Скарына нечакана цалуе Вартаўніка.

Скарына *(усхвалявана)*. Любы ты мой чалавеча!

Вартаўнік *(адчужана, адступіўшы ад Скарыны)*. А вось гэтага не трэба! Я табе не любы, і ты мне не сваяк. Мне далі — я прынёс... Скажуць адабраць — адбяру.

Скарына. Дык дзе ж яны... астатнія?!

Вартаўнік *(паблажліва)*. Я да цябе не наймаўся пуп надрываць. Выйдзі і вазьмі. *(Адчыняе дзверы.)*

Скарына выходзіць пад наглядам Вартаўніка і вяртаецца з важкім клункам кніг, завязаных у посцілку. Кладзе яго на лаўку, развязвае рагі посцілкі, гладзіць кнігі рукою, складае ў стос.

Скарына *(вельмі пранікнёна)*. Якую ж ты мне радасць прынёс, добры чалавек!

Вартаўнік. А навошта табе столькі?..

Скарына. Мне не трэба. Я табе хацеў паказаць.

Вартаўнік. Навошта, калі я ў грамаце...

Скарына. Каб ты паверыў, што я не забойца, не бадзяга, не канакрад... што я не толькі чалавек сумленны, але і не дурны...

Вартаўнік. А пры чым тут кнігі?

Скарына. Я зрабіў іх уласнымі рукамі. Сам, разумееш?

Вартаўнік *(збянтэжана)*. Як сам?!

Скарына. Ну, не адзін, вядома,— з сябрамі, з таварышамі...

Вартаўнік. Дык ты мо і сам чытаць умееш?!.

Скарына. Я і пісаць яшчэ ўмею. *(Смяецца.)*

Вартаўнік. Акрамя смеху?..

Скарына. Магу пакляісціся...

Вартаўнік. Перахрысціся!

Скарына хрысціцца.

Я разумею, калёсы там зрабіць, хамут ці барану... А чаму гэта менавіта ты за кнігі ўзяўся?..

Скарына. А больш не было каму.

Вартаўнік. Як гэта не было? Манахі гэтым у Полацку спрадвеку займаліся. Іх гэта справа... і тут, у Познані.

Скарына. Справа якраз у тым, што перапісвалі я гэтыя кнігі з незразумелай латыні полацкімі словамі, каб дзеткі паспалітыя і людзі простыя разумець маглі.

Вартаўнік *(захоплены пачутым)*. І даказаць гэта можаш?!.

Скарына. Магу... Ты толькі сядай.

Вартаўнік. Пакуль разам з табою не пасадзілі, пастаю...

**Скарына.** Ну, пастой сабе. *(Бярэ кніжку, адгортвае старонку: чытае больш па памяці, чым па тэксце.)* «В сей книзе всее приroжeное мудрости зачало и конець... В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имеють, пописаны суть... В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные зуполне знайдете. Ту навчение философии добронравное, яко любити Бога для самого себе и ближнего для Бога, имамы...

Хощеши ли умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполнай Бивлии, Псалтыру, чти ее...»

**Вартаўнік.** Распавядаеш прыгожа, і паверыць хочацца, а не магу... Не, калі заплюшчыць вочы, можа б, і паверыў, што ты ўсё гэта сам у кнігу ўставіў, а як гляну на тваё рыззё — не магу.

**Скарына** *(падае кнігу)*. Тады патрымай... пагартай...

**Вартаўнік.** А што з таго?..

**Скарына.** Ну, хоць на выявы паглядзі!.. Я іх сам маляваў і ў кнігі ўставіў. *(Цытуе па памяці.)* «А для таго, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети...»

**Вартаўнік** *(разглядае малюнкі і з захапленнем, і са здзіўленнем, і са страхам)*. А гэта хто?.. Хрыстос ці мо епіскап які?..

**Скарына.** Гэта — я...

**Вартаўнік.** Як — ты?!

**Скарына.** А так, як бачыш: уласнай персонаю, толькі не ў лахманах, ад якіх у цябе такі недавер, а ў доктарскай мантыі...

**Вартаўнік** *(з недаверам і злосцю)*. Значыцца, ты яшчэ і святы?!. Каго толькі ў маёй вязніцы не было, а святыя яшчэ не траплялiся... *(Крычыць.)* Прахвост ты, манюка, а не святы! І хопіць мяне

ў дурні ўшываць!.. А даведаюся, што канакрад, я цябе, валацугу...

Скарына. Не гарачыся. Прыгледзься да мяне і да маёй выявы. *(Становіцца бліжэй да святла, прыгладжвае валасы, вусы.)* Там жа ўнізе так і напісана: *(цытуе)* «Прото я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, ■ лекарскых науках доктор, разумея сее, иже без страху Божия, без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почстиве жити людем посполите на земли, казал есми тиснути книги сии руским языком напред ко чти и к похвале створителю, спасителю, утешителю Богу... потом людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев, абы, научившися мудрости, добре живучи на свете, милостивого Бога хвалили...»

Пакуль Скарына па памяці чытае гэтыя словы, Вартаўнік збянтэжана глядзіць то на яго, то на выяву ў кнізе.

Вартаўнік. Францішак?! Ты той самы Францішак, сын старога купца Лукі Скарыны?!.

Скарына. Той самы, якога ты, Янка, вучыў некалі плаваць і які чытаў табе на Барысавым камені, што ляжыць на стрыжні Дзвіны, загадкавае і старажытнае: «Господи, помози рабу своему Борису».

Вартаўнік кідаецца ў абдымкі да Скарыны.

Вартаўнік *(крыху супакоіўшыся)*. Што ж ты мне колькі дзён галаву тлуміш?!.

Скарына. Прыглядаўся. Мальцаў хацеў тваіх пабачыць. Ці падобныя, думаю, на бацьку ў свае гады...

Вартаўнік *(вельмі таропка)*. Чым дапамагчы?!. А можа, сёння ж і збяжым?!. Мне толькі мальцаў папярэдзіць, а мая пані Анэлька за мной на край свету з'едзе. І што мне ў гэтай Познані?!.

**Скарына.** Барані Божа — ніякіх уцёкаў. Не канакрад жа я, сапраўды!

**Вартаўнік.** Дык а што тады?!.

**Скарына.** Прынясі мне аркуш паперы, чарніла і пяро. Я напішу ліст аднаму чалавеку, і мярзотнікі, якія надзелі на мяне гэтае рыззё, у зубах прынясуць мне доктарскую мантыю!

**Вартаўнік** *(узбуджана глядзіць на Скарыну, абыходзіць яго вакол, дакранаецца да кнігі).* Ай, Францішак! Ай, братачка! Калі ты мне пераказваў знакі з Барысава каменя, я мог бы здагадацца, што далёка пойдзеш! Але каб у твае гады, жывым... у святыя?!. Згубіш ты галаву, чалавек...

**Скарына.** Мне і кароль пра тое казаў.

**Вартаўнік** *(збянтэжана).* Як — кароль?!.

**Скарына.** Быў выпадак.

*Сцэна зацямняецца.*

## III

### З успамінаў Скарыны

Кракаў. Тронная зала. На троне кароль польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт I Стары. Яму каля шасцідзесяці. Ён зняў чаравікі і padабраў ногі на трон. Карону павесіў на старчак спінкі трона злева. На старчаку справа вісіць «дзяржава». Кароль салодка спіць. Відаць, яму сніцца прыемны сон. Уваходзіць каралева Бона. Надзвычай прыгожая, эфектная і вельмі экспансіўная жанчына. Ёй каля трыццаці, але выглядае намнога маладзейшай. Са здзекам і іроніяй глядзіць на караля, які падцягнуў пад сябе ногі і хавае пад пахі рукі, каб было цяплей. Нешта мармыча праз сон.

**Бона.** О, Санта Мадонна! Можа, прачнемся, ваша вялікасць?!. Прэсто! Прэсто!

Жыгімонт (*падхапіўшыся, перапалохана і таропка абувае чаравікі*). Такі быў сон!.. Такі сон...

Бона (*надзявае каралю карону, дае ў рукі «дзяржаву»*). Ноччу, ноччу, ваша каралеўская вялікасць, будзеце сны глядзець...

Жыгімонт. Ноччу, мая слаўная каралева, як і заўсёды, я буду глядзець на вас, і не ў сне, а наяве...

Бона (*сур'ёзна*). Жартаваць, між іншым, таксама будзем ноччу...

Жыгімонт (*не расшалопаў здзеку*). Была б ваша воля...

Бона (*смяецца*). Мая воля будзе... была б ваша моц.

Жыгімонт (*разгублена і вінавата*). Ну... тут ужо, як выпадзе...

Бона. О, Санта Мадонна! (*Садзіцца на свой трон, звоніць у званочак.*)

З'яўляецца канцлер Гаштольд, схіляе галаву.

Яго вялікасць хоча бачыць доктара Скарыну і епіскапа Яна. (*З'едліва.*) Не лішнімі і вы будзеце, шаноўны канцлер...

Пакланіўшыся, канцлер выходзіць і вяртаецца зараз жа са Скарынай і епіскапам Янам. Запрошаныя вітаюць караля і каралеву нізкімі паклонамі. Усе апрануты згодна сваіх пасад і званняў. Скарына — у доктарскай мантыі і берэце, які не здымае нават перад каронай.

Жыгімонт. Мы хацелі б прасіць нашых шаноўных канцлера і епіскапа даць магчымасць многавучонаму і знакамітаму мужу Францыску, сыну Скарыніну, пазнаёміцца з канчатковым тэкстам Статута Вялікага княства Літоўскага, да якога б ён прыклаў сваю руку і розум, які мы высока цэнім, і

менавіта да таго, як вынесці названы збор законаў княства нашага на зацвярджэнне сейма.

Скарына *(нечакана)*. Калі ваша вялікасць дазволіць, я скажу, што гэта справа мною ўжо зроблена ў межах маіх здольнасцей...

Бона *(здзіўлена)*. О-о!

Жыгімонт. Але ж Статут, распрацаваны пад апякунствам нашага канцлера *(глядзіць на Гаштольда)*, быў толькі ў нас *(глядзіць на каралеву)* і ў епіскапа Яна.

Скарына. Я не быў бы Францыскам Скарынай, калі б упусціў магчымасць пазнаёміцца і ўнесці сваю лепту ў святую справу вашай вялікасці, якая робіцца на карысць маёй Айчыны.

Бона *(з'едліва)*. На карысць нашага каралеўства і нашага княства, хацеў сказаць слаўны доктар.

Скарына. Менавіта так, мая слаўная каралева...

Жыгімонт. Вы наважыліся зараз жа і выказаць свае заўвагі?..

Скарына. Менавіта так, ваша вялікасць... І, з вашага дазволу, не столькі заўвагі, колькі прапановы...

Бона *(паспешліва)*. Мы слухаем вас, доктар...

Жыгімонт. Так, слухаем...

Скарына. Пры ўсёй важнасці і каштоўнасці зробленага па абагульненні законаў і прывілеяў нашага княства, Статуту, як мне здаецца, неабходна надаць пэўную стройнасць, як усякаму твору высокай навукі і мастацтва. І перш-наперш прымяніць строгую сістэму і структуру размяшчэння прававых нормаў. А таксама ўключыць тыповыя і абагульненыя нормы, якія ў першую чаргу тычыліся б дзяржаўнай юрысдыкцыі і дзяржаўнага кіравання.

**Бона.** Даруйце, але мяне здзіўляе, як вы маглі не заўважыць сістэмы і структуры?!.

**Скарына.** Справа ў тым, што я хацеў бы прапанаваць сваю...

**Бона.** Наш доктар не памрэ ад сціпласці...

**Скарына** *(весела і прыязна)*. Мая слаўная каралева, сапраўды, я, відаць, памру ад нечага іншага, бо не змагу адмовіцца ад таго, што ўжо ведаю.

**Бона.** Пабойцеся Бога, доктар, вашы грахі ў яго на ўліку.

**Скарына.** Бог і кароль мне найвышэйшыя суддзі.

**Бона.** Але ж навошта нажываць сабе ворагаў?

**Ян.** Ваша прыязнасць, яснавяльможная каралева, да доктара Скарыны ведама і Богу і каралю.

**Бона** *(са злосцю)*. Санта Мадонна!..

**Жыгімонт** *(строга)*. Ян! Я не дзеля таго цябе сюды паклікаў...

**Ян** *(нібы пакорліва)*. Палюбіце адзін аднаго, як Бога нашага і памазанніка яго...

**Бона** *(са злосцю)*. Амін! Прэсто! Прэсто, доктар Скарына!

**Жыгімонт.** Гаварыце, доктар!

**Скарына.** Раздзелам першым бачу законы, дадзеныя дзяржаве, нашаму Вялікаму княству Літоўскаму, Рускаму, Жамойцкаму. Другі раздзел — аб абароне земскай; трэці — аб вольнасцях шляхты. Найгалоўнейшым жа лічу сцвярджэнне суверэнітэту дзяржавы насуперак існуючаму касмапалітызму. А яшчэ адзінства права і прыярытэт пісанага права перад правам звычаёвым. Я запісаў бы літаральна: жадаем і пастанаўляем і на вечныя часы павінна быць захавана, што ўсе нашыя падданыя як бедныя, так і багатыя, якога б саслоўя і становішча яны ні былі, роўна і аднолькава павінны быць судзімы па гэтых пісаных законах, а калі б суддзі судзілі інакш, то

павінны былі б самі быць судзімы. Без гэтага, пан канцлер, сейм зноў адхіліць праект Статута.

Бона *(з мілай усмешкаю)*. А гэта ўжо не вашы турботы, пан доктар!

Скарына надоўга замаўкае.

Жыгімонт. Гаварыце, доктар.

Скарына. Таксама ніхто не павінен быць пакараны і прыгавораны за чужое злачынства, а толькі той, хто вінаваты. І ніхто не павінен быць пакараны, калі яго віна не будзе ўстаноўлена судом,— ні жонка за злачынства мужа, ні бацька за злачынства сына, ні сын за бацьку, а таксама ніхто з родзічаў, ні слуга за пана.

Бона. А пра гэта трэба яшчэ падумаць.

Гаштольд. Думаць — не толькі высокае прызванне, але і абавязак дзяржаўцаў.

Бона *(дзёрзка)*. Каралю, як і каралеве, вядомы іх абавязкі!

Жыгімонт. Кароль за сябе сам скажа! *(Больш мякка.)* А падумаць — не пашкодзіць.

Бона. І хоць бы таму, што вядома, як будуць сябе паводзіць бацькі-злачынцы, калі загадзя вызваліць ад адказнасці іх дзяцей...

Скарына. Тым не менш час няўмольна патрабуе, яснавяльможная каралева...

Бона *(з усмешкаю)*. Вы многа бачылі і многа ведаеце, доктар, але павучаць караля і каралеву...

Жыгімонт. А я асабіста люблю паслухаць разумных людзей. Не фальваркам, дзякаваць Богу, правім, а каралеўствам.

Бона. І яшчэ, між іншым, княствам... Вялікім княствам Літоўскім!

Жыгімонт *(стрымана)*. Калі б я правіў ім «між іншым», аднаму Богу вядома, пад чыёй рукой яно было б сёння...

Я н. Сапраўды...

Бона аж перасмыкаецца ад рэплікі Яна.

Ж ы г і м о н т. Гаварыце, доктар...

С к а р ы н а. Я хацеў бы падтрымаць канцлера і ў першую чаргу прапанаваць такі запіс: згодна Статуту яго вялікасць кароль Польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага абавязваюцца захоўваць і берагчы цэласнасць дзяржавы.

Ж ы г і м о н т. Гэта і так вядома.

Г а ш т о л ь д *(настойліва)*. Ваша вялікасць, абставіны ўнутры каралеўства і княства, а таксама за яго межамі патрабуюць гэтага запісу. Многа ў чым я мог бы не пагадзіцца з доктарам Скарынай, але толькі не ў гэтым.

Б о н а. Дзіўнае аднадушша...

С к а р ы н а *(пакланіўшыся Гаштольду)*. Да вышэйсказанага я дадаў бы наступнае: мы, кароль польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, таксама абяцаем, што ў землях Вялікага княства ні мы, ні нашы нашчадкі нікому з чужынцаў не будзем даваць ва ўласнасць і ўтрыманне зямель, замкаў, гарадоў і якіх бы там ні было званняў і чыноў, але толькі мясцовым ураджэнцам тых зямель нашага Вялікага княства.

Б о н а. Санта Мадонна! Да гэтага нават пан канцлер не дадумаўся...

Я н. На гэтым пан канцлер з панам доктарам пасябруюць.

Г а ш т о л ь д. У пана доктара не ўсё так блага, як пану біскупу часам падаецца.

Я н *(зводзіць на жарт)*. Вось бачыце...

Г а ш т о л ь д. А калі б хто-небудзь з падданых збег з нашай дзяржавы ў зямлю нашых непрыяцеляў, то пазбаўляецца свайго гонару, а яго іменне спадчыннае, выслужанае і купленае не пераходзіць

ні да дзяцей, ні да родзічаў, а толькі да вялікага князя.

**Бона.** Грацыо, пан доктар... Грацыо!

**Жыгімонт** *(глянуўшы на каралеву).* Разумна!

**Бона.** Хоць і не настолькі, каб гэтым захапляцца...

**Скарына.** А яшчэ не адбіраць у маёмасных людзей пасад і маёмасці без суда.

**Гаштольд.** І нікому з саноўнікаў нашых не даваць дзвюх пасад.

**Бона.** Я і гэта павінна ўзгадняць з вамі?!.

**Гаштольд.** Не са мною, але з законам...

**Бона** *(амаль крычыць).* Баста! Ніколі!

**Скарына.** А яшчэ — публічнасць здзяйснення правасуддзя пры роўнасці бакоў у працэсе і права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката.

**Гаштольд.** І ніхто не адказвае за чужую віну.

**Скарына.** А каб папярэдзіць паклёпы, даносы і нагаворы, першым жа артыкулам першага раздзела першага кодэкса нашага я запісаў бы на абарону дзяржавы і яе падданых: калі б хто агаворам-паклёпам абвінаваціў каго і абвінавачаны павінен быў бы падлягаць ганьбаванню ці смяротнай кары, ці канфіскацыі маёмасці, ці якому іншаму пакаранню, тады той, хто агаварыў іншага, але не прадставіў доказаў, сам павінен панесці такое пакаранне. Менавіта гэтая норма зберагла б не толькі падданых дзяржавы, але і яе гонар паміж дзяржавамі. Даносы і паклёпы вынішчаюць людзей не горш, чым войны, паморкі і татарскі палон.

Каб залішне не стамляць вашу каралеўскую вялікасць, я змаўкаю.

**Бона** *(іранічна).* Мы ўдзячны знакамітаму доктару. Ва ўсякім разе, становіцца зразумелым, чаму шляхта на сеймах ігнаруе волю караля і не прымае

Статут... Назавіце мне хоць адну дзяржаву, дзе законы манархаў так зацята адвяргаюцца падданымі ўжо больш за шэсць гадоў?.. Няма такіх дзяржаў!

Гаштольд. Але ж не было яшчэ і такіх законаў...

Жыгімонт. Канцлер мае рацыю.

Бона. Якая карысць ад непрынятых законаў?

Гаштольд. Законы будуць прыняты, але магнаты і паны-рада чакаюць ад нас уступак.

Бона. Не ад вас, а ад нас!

Гаштольд. Яны патрабуюць ад кароны захаваць усе старыя пастановы, а новыя не прымаць без іх удзелу. Рада настойвае на літаральным запісе ў Статуце: вялікі князь бярэ на сябе абавязак дзяржаву яго міласці Вялікае княства Літоўскае і паноў-раду ні ў чым не прыніжаць... Гэта па меншай меры...

Бона. Не трэба нас палохаць, канцлер!

Гаштольд. Божа нас барані. Але закон пра забарону адбіраць зямлю, некалі дараваную каралямі Ягелонамі нашым падданым, трэба ў Статут унесці.

Бона. Я выкупляю каралеўскія землі! Я абурана намёкамі канцлера!

Жыгімонт. Канцлер, не намякайце! Што ў вас яшчэ, доктар?

Скарына. Я далучыўся б да пана канцлера, а ў Статут дадаў бы яшчэ палажэнне, якога чакаюць як магнаты, так і паны-рада, пра тое, што ў землях Вялікага княства Літоўскага ні кароль, ні яго нашчадкі нікому з чужаземцаў не будуць даваць ва ўладанне зямель, замкаў, гарадоў і якіх бы то ні было званняў і чыноў, але толькі мясцовым ураджэнцам Вялікага княства.

Бона. Ці не занадта вы многа хочаце, шаноўны доктар?

Гаштольд. Гэтага хоча Вялікае княства!

Бона. Санта Мадонна!

Жыгімонт *(міралюбна)*. Дарагі Альбрэхт, не трэба думаць, што наша княства даражэй вам, чым нам.

Бона. Канцлер ■ доктарам проста згаварыліся!

Скарына. Я толькі мушу сказаць, яснавяльможная каралева, што інтарэсы Вялікага княства пацерпяць страты, калі ў Статуце не будуць замацаваны правы і прывілеі не толькі шляхты, але і люду простага.

Бона. А гэта нешта ўжо зусім новае!.. Нечуванае!..

Ян *(перапалохана)*. Пабойцеся Бога, доктар Скарына!

Гаштольд. Бог не будзе ў крыўдзе, калі кароль і вялікі князь захаваюць у цэласнасці вольнасці княжат, панят, шляхціцаў і мяшчан.

Скарына. І калі мяшчане ўсіх гарадоў будуць адказныя перад судом за раны і забойствы сялян.

Гаштольд. Калі закон забароніць няволю, залог і куплю-продаж хрысціян жыдам і татарам.

Скарына. І калі ваяводамі будуць адбірацца тайныя корчмы, ад якіх нараджаецца так многа зла на нашай зямлі.

Ян. Даўно пара!

Бона. Брава, біскуп! Доктару ўдалося закалыхаць не толькі караля і канцлера, але і вас. А можа, вы ўсе заадно разам з каралём?!.

Жыгімонт *(іранічна)*. Найяснейшая каралева! Ці ж не бачна, як мы аднадушны...

Бона. Неверагодна! І законы, і вольнасці, і суды — адны для ўсіх: ад князя да селяніна. Нас жа засмяе Еўропа!

Скарына. Можа і так стацца, найяснейшая каралева, што Еўропе ў нас давядзецца вучыцца. Тым

больш што вы даўно дакляруеце стварыць шчаслівае каралеўства па Платонавым узоры...

Бона. Мне шкада вас, летуценнік!

Скарына. Так, летуценнік. І мой дэвіз — роўная свабода ўсім, агульнае багацце для ўсіх. І ён не прыдуманы некім злым. Ён паходзіць ад закона прыроджанага: тое чыніце іншым усім, што самому люба ад іншых усіх. І таго не чыніце іншым, чаго сам сабе не хочаш ад іх меці...

Бона. Вы, доктар Скарына, на здзіўленне лёгка нажываеце сабе не толькі супрацоўнікаў, але і ворагаў.

Скарына. Вышэй за ўсё на свеце я цаню ісціну, яснавяльможная каралева.

Гаштольд. Я падзяляю гэтую думку доктара, як і многія яго заўвагі да Статута, хоць мы з ім далёка не ў дружбе.

Ян. А я з доктарам у даўняй дружбе, але мне ўсё ж падалося, што ён сёння вольна ці не вольна наважыўся не столькі ўмацоўваць новымі законамі дзяржаву, колькі прапаведаваць рэфармацыю і роўнасць усіх перад законам. Перад Богам — згодзен, але ж не перад законамі... Ужо сам факт пастаноўкі вамі, доктар, на першае месца натуральнага ці, як вы кажаце, прыроджанага чалавечага права, раней Бібліі і кананічнага права, сведчыць аб шкодным і небяспечным вальнадумстве.

Бона. Мы былі б далёка ад ісціны, калі б сказалі, што ў нас сяброўскія адносіны да біскупа Яна, але да яго ацэнкі вальнадумства доктара *(глядзіць на караля)* мы далучаемся.

Скарына. Я дзіця сваёй эпохі, што носіць імя Адраджэнне, і быць вальнадумцам не толькі маё прызванне, але і мой абавязак перад Айчынай, мая найяснейшая каралева.

Бона. Баста! Баста!

**Жыгімонт.** Вы добры і разумны чалавек, доктар Скарына, а таму не ўберагчы вам галавы...

**Скарына** *(з усмешкай).* Адсякаць такую галаву, як мая, ваша вялікасць, сабе ж на страту...

**Гаштольд.** Асабліва калі ўлічыць, што з дапамогай доктара нам давядзецца надрукаваць Статут, хочам мы таго ці не...

**Бона** *(ускоквае з трона).* Вам бы спачатку пра тое нас спытацца! Аўдыенцыя скончана! Баста! *(Выходзіць.)*

Усе кланяюцца, адступаючы да дзвярэй.

**Жыгімонт.** А вы, канцлер, застаньцеся...

**Скарына** і **Ян** выходзяць.

Вы што, сапраўды наважваецеся надрукаваць Статут?

**Гаштольд.** Я толькі сказаў, што нам з вамі давядзецца зрабіць гэта, хочам мы таго ці не...

**Жыгімонт** *(незадаволена).* Канцлер, вы берацe мяне за глотку. Нібы не бачыце... *(Ківае на дзверы, у якія выйшла Бона.)*

**Гаштольд.** Будзе горш, калі і мяне і вас з каралеваю за глотку возьме шляхта. І вы, яснавяльможны кароль, і наша слаўная каралева...

**Жыгімонт** *(незадаволена).* Не чапайце, канцлер, каралеву, якой бы слаўнай яна ні была!.. Мне надакучыла вас мірыць...

**Гаштольд.** Я толькі мару, каб каралева не чапала мяне...

**Жыгімонт.** Многа хоча каралеўскі канцлер...

**Гаштольд.** Толькі з тае прычыны, што я яшчэ і канцлер Вялікага княства.

**Жыгімонт** *(больш мякка).* Мы яшчэ і сябры...

**Гаштольд.** Я і прашу вас па-сяброўску: падтрымайце доктара Скарыну ў намеры надрукаваць Статут. Ён зробіць гэта і хутка, і належным чынам.

**Кароль моўчкі скідае чаравікі, вешае «дзяржаву» на адзін старчак трона, а карону на другі. Падбірае ногі на трон, уладкоўваецца, нібы перад сном.**

Жыгімонт *(пазяхнуўшы)*. Статут яшчэ трэба правесці праз сейм...

Гаштольд выходзіць. Праз нейкі час з'яўляецца Бона.

Бона. А я спадзявалася перасварыць сённяназаўсёды караля, канцлера, епіскапа і доктара.

Жыгімонт *(не расплюшчваючы вачэй)*. Інтрыгі пры двары, ваша вялікасць, вельмі шкодзяць.

Бона. Санта Мадонна! А дзе ваша вялікасць бачыла двор без інтрыг?.. Ці, можа, я не бачу, як за маёй спінаю вы згаварваецеся з Гаштольдам? Як хітрыць ваш сынок епіскап Ян, прыгрэўшы на грудзях гэтага доктара. На словах ён нібы яму антаганіст, а на справе — у хаўрусе. Са слуцкімі князямі яны адкрылі ў Веснічах пад Гародняй не толькі касцёл, але і парафіяльную школу. Скарынаву школу. Ці, можа, не епіскап Ян заплюшчвае вочы на друкарскую дзейнасць доктара ў Вільні? Можа, ён не з ім разам вышуквае шляхецкіх і купецкіх сынкоў і пасылае ва універсітэты краіны, дзе правяць ненавісныя мне Габсбургі?.. А Гаштольд?! Ён хоча перашкодзіць мне вяртаць каралеўству гарады і маёнткі!..

Жыгімонт. Пабойцеся Бога! Вы ж толькі што авалодалі княствам Пінскім, ледзьве не ўсім Валынскім, захапілі Кобрын, Клецк, Абольцы пад Оршай, два староствы ад Гародні да Коўна, у вас пад рукою ўся Мазовія!..

Бона *(спакойна, з усмешкай)*. У Боны Сфорцы Арагонскай пад рукою яшчэ і каралеўства ў Італіі...

Жыгімонт. І ў Італіі... А вы пра інтрыгі... А я так думаю: інтрыгі інтрыгамі, а Статут Вялікага княства давядзецца рабіць такім, каб ён нарэшце быў прыняты панамі-радай.

**Бона** *(здзекліва)*. І ваша міласць пра гэта будзе зноў пісаць Радзівілам на мове дзікуноў, што жывуць за Нёманам...

**Жыгімонт**. Можна падумаць, што ваша вялікасць піша Радзівілам па-італьянску, якой яны, між іншым, цудоўна валодаюць. А то навошта вам трымаць пры сабе перакладчыка з італьянскай на беларускую... А ў дзікуноў, як пераканалася мая каралева, хапіла спрыту і розуму, каб стварыць законы, якіх яшчэ не ведаў свет. І, відаць, таму, што за Нёманам дзяржава ад мора і да мора. І хто б пісаў тым Радзівілам, каб не было Алелькавічаў і іншых, што спяць і бачаць Белую Русь уз'яднанай з Руссю Маскоўскаю.

**Бона**. Між іншым, Польшча...

**Жыгімонт** *(перапыняе)*. Польшча нішто без Вялікага княства! Нішто!..

**Бона**. Санта Мадонна! Але і Вялікае княства без Польшчы...

**Жыгімонт** *(перапыняе)*. А гэта яшчэ як сказаць...

**Бона** *(занепакоена)*. Вы наважыліся пагадзіцца з прыняццем гэтых законаў?!.

**Жыгімонт**. Прымаць законы — яшчэ не азначае выконваць іх. Пісаць на мове Радзівілаў і Алелькавічаў — яшчэ не азначае паважаць іх мову і іх саміх. Абяцаць Гаштольду — яшчэ не азначае выконваць абяцанкі...

**Бона** *(з падвохам)*. А як жа з сяброўствам?..

**Жыгімонт**. Такі падслухоўвалі?!.

**Бона**. Можна падумаць, што вы на гэта не разлічвалі...

**Жыгімонт**. Бо хацеў, каб яснавяльможная ведала, што кароль не толькі сабе знайшоў сябра, але і саюзніка каралеўству, пра якое каралеве варта было б думаць больш, чым пра свае амбіцыі.

Бона. Канцлер абвядзе нас вакол пальца, як рабіў гэта ўжо не раз!..

Жыгімонт. Канцлер Гаштольд непакоіцца за Вялікае княства, як і я непакоюся за Каралеўства Польскае. І мы, калі бывае трэба, водзім адзін аднаго не толькі вакол пальца, але і за нос. Тым не менш я давяраю Гаштольду, бо менавіта ён, Гаштольд, шукае збліжэння з Аўстрыяй і з Прусіяй, а не ■ Масковіяй. І не хто іншы, як ён, Гаштольд, у свой час схіліў вялікі сейм, каб той яшчэ пры маім жыцці зрабіў нашага сына Аўгуста маім пераемнікам. Такога яшчэ не ведаў свет!

Бона. Баста! Баста! Гэта я зрабіла Аўгуста наследнікам караля!

Жыгімонт *(пасля паўзы, не слухаючы)*. Пад рукой Гаштольда дзяржава, паны-рада, вальнадумная шляхта. Іх пальцы на маёй шыі! І пра гэта яснавяльможная каралева таксама чула! І рана ці позна яны не толькі прымуць, але і надрукуюць свае законы. Лепш было б зрабіць гэта ■ нашае волі, з нашае ласкі і нашага благаславення.

Бона *(катэгарычна)*. Ніколі! Ці пасля маёй смерці! Баста!

Жыгімонт. Кароль ці нават каралева могуць памерці. А каралеўства павінна жыць! Польшча павінна жыць! І яна будзе жыць. І добра, каб у міры і згодзе з Вялікім княствам...

Бона. І з Масковіяй...

Жыгімонт. І з Масковіяй, і з Турцыяй, і з Аўстрыяй, і ■ Венгрыяй, і з Чэхіяй, і з Прусіяй, і з імператарам Вялікай Рымскай імперыі. Інакш — пагібель! Каралеўская казна пустая, войска непаслухмянае, у дзяржаве разарэнне і мор, якіх яшчэ не было. І вам, яснавяльможная, варта было б памаліцца на Вялікае княства, якое стаіць заслонаю і ад маскавітаў, і ад татараў, і ад турак. І карона не

зваліцца, калі каралева хоць для прыліку схіліць галаву перад тымі ж Радзівіламі, Гаштольдамі, Сапегамі ці Алелькавічамі. Дзякуй табе, Божа, што яны яшчэ не адмаўляюць Ягелонам у сваёй дружбе і падтрымцы.

Бона. Але якой цаной вы купляеце іх дружбу?!.

Жыгімонт. Калі ўсё цаніць на грошы, можна чорту душу прадаць...

Бона *(паднімае ўверх рукі)*. О Санта Мадонна! О Польшча?! O Rzeczpospolita?!

Жыгімонт. Не трэба заломваць рукі. Трэба раз і назаўсёды засвоіць, што ў Польшчы, не кажучы пра Вялікае княства, не прынята, каб каман-давала жанчына.

Бона. А калі жанчына — каралева?..

Жыгімонт. Тым больш. Тут нават караля выбіраюць, які не заўсёды па сваёй волі выбірае каралеву... Усё! Баста!

Бона. Санта Мадонна...

*Сцэна зацямняецца.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### IV

Познань. Скарына ў вязніцы. Грымяць запоры, уваходзіць Вартаўнік.

Вартаўнік. Лічы, братачка, што табе пашанцавала: мальцы гатовы, Анэлька згодная, другога каня купіў, хоць і не такога, як канакрады звялі, але ехаць можна. *(Вымае з-за пазухі свечку, запалкі, бутэлечку чарніла, гусінае пяро і аркуш паперы.)* У самога пракурора пазычыў. Хацеў падзякаваць,

ды пабаяўся, каб не дагналі. Напішы ім на памяць, каб шукалі ветру ў полі. А да раніцы наш і след прастыне.

Скарына. Рызыкоўны ты мужык, як я бачу!.

Вартаўнік. У нас у Полацку амаль усе такія: за дружбу — што ў вір, што ў балота!.. А Анэлька дык мяне яшчэ і разумным лічыць. А ёй можна верыць, як мне!

Скарына. Тады канешне... А мальцам тваім — колькі?

Вартаўнік. Што — колькі?..

Скарына. Гадоў колькі?..

Вартаўнік. Семнаццаць.

Скарына. На двух?

Вартаўнік. Чаму на двух? Кожнаму па семнаццаць. Мне Анэлька адразу двойнечку прэзентавала. А пастараешся, кажа, то мне і трох не цяжка. У Познані, маўляў, на гэта кожная здатная. Я табе, братачка, шчыра, па-зямляцку скажу, калі яшчэ не жанаты, то лепей жонкі за польку не знойдзеш. Без мух бабы! І калі ты да яе ■ ласкаю, то яна за табою...

Скарына *(перапыняе)*. І ўсё ж уцякаць з Познані не будзем...

Вартаўнік *(разгублена)*. А што ж мы тады будзем?..

Скарына. «Насилию силою отпрение!»

Вартаўнік *(не разумее)*. Ты мне прасцей якнебудзь...

Скарына. За насілле адлуп дадзім. Змагацца будзем, каб перамагчы і Познань пакінуць паважанымі людзьмі, а не беглымі даўжнікамі.

Вартаўнік. Ды разлічыўся я з усімі сваімі даўгамі!

Скарына. Ты разлічыўся, а я сваё з Лазара і Мойшы спагнаць хачу.

**В а р т а ў н і к.** З Лазара і Мойшы даўгі?.. Дык з іх жа яшчэ ніхто ніколі не спагнаў.

**С к а р ы н а.** Тады я першым буду! Дапамажы толькі — адзін не ўпраўлюся.

**В а р т а ў н і к.** Палачанін я ці не палачанін?!.

**С к а р ы н а.** Тады давядзецца табе, палачанін, паслаць аднаго сына ў Вільню, а другога ў Гданьск.

**В а р т а ў н і к.** І пашлю — не раз былі і не маленькія ўжо...

**С к а р ы н а.** У Гданьску трэба знайсці купца Рамана Скарыну — ён мне пляменнік, а ў Вільні епіскапа Яна — я на службе ў яго быў сакратаром і лекарам. Расказаць абодвум, дзе я і што са мною. Толькі епіскап можа дапамагчы Раману сустрэцца з каралём.

**В а р т а ў н і к.** Не возьмецца епіскап Я іх натуру ведаю.

**С к а р ы н а.** Ян возьмецца. Ён каралю пазашлюбны сын. І любіць каралеву, як кот сабаку...

**В а р т а ў н і к.** Хіба што...

**С к а р ы н а.** Мяне ж можа выратаваць толькі кароль, бо ўсе цянёты, як мне здаецца, сплецены на мяне за яго спінаю.

**В а р т а ў н і к.** І кім жа?

**С к а р ы н а.** Думаю, што каралевай.

**В а р т а ў н і к.** Во курва!

**С к а р ы н а** *(заціскае рот Вартаўніку)*. Т-с-с!.. Мы дагаварыліся адзін аднаму да канца...

**В а р т а ў н і к.** Тады менш размоў! Пішы, што трэба, а я тым часам мальцаў папярэджу, каб коней у дарогу рыхтавалі. Мой яшчэ нічога, а куплены не вельмі... *(Выходзячы.)* Канакрады — пся крэў!..

Грымяць запоры. Скарына запальвае свечку, ставіць яе на лаўку, прымошчваецца на падлозе, каб напісаць пісьмы.

*Сцэна зацямняецца.*

## V

Кракаў. Чалавек у чорным і Бона.

Чалавек у чорным. Гаварыце. Там чакаюць. *(Паўза.)* Што кароль?

Бона. Кароль без улады — не кароль...

Чалавек у чорным. Дакладней!

Бона. Ён не можа распараджацца казною. Ён сядзіць у Кракаве, а ў Вялікім княстве верхаводзяць канцлер, гетман, ваяводы, кашталяны, маршалкі. Ён не можа адмяніць рашэнні сейма і паноўрады. Канцлер у Вялікім княстве — большы кароль за караля ў Польшчы. Пад яго рукой сілы, якія маюць... усе магчымасці маюць...

Чалавек у чорным *(перапыняе)*. Што шляхта?

Бона. Непадуладныя каралю магнаты душаць шляхту, шляхта душыць мяшчан і сялян, а тыя шукаюць паратунку і бягуць з вёсак і маёнткаў у гарады. Шляхта бунтуе ў сеймах і судах, якія судзяць па асобных указаннях, па «сумленні» і «мудрасці», але толькі не па закону. Але калі шляхце даць закон, яна знясе самога караля... А на гэты раз яна, здаецца, атрымае закон. Як ні дзіўна, але кароль гэтага хоча. А хутчэй за ўсё не мае сілы супрацьстаяць канцлеру.

Чалавек у чорным. Што лютаране?

Бона. У Вялікім княстве іх адзінкі, у каралеўстве множацца, як саранча. Папскія эдыкты супраць ерэтыкоў ігнаруюцца. Умяшанні рымскай курыі выклікаюць выбухі нянавісці да каталіцкіх духоўнікаў. Тут і магнаты і шляхта яднаюцца. І тыя і другія гатовы адмяніць дзесяціну, павялічыць свае ўладанні за кошт царкоўных зямель і пазбавіцца залежнасці ад каралеўскай улады.

Чалавек у чорным. Каму кароль не давярае і з кім у згодзе?

Бона. Не давярае ў першую чаргу мне...

Чалавек у чорным. Мы не дзеля гэтага зрабілі Бону Сфорцу каралеваю...

Бона. Санта Мадонна! *(Пасля паўзы.)* У згодзе кароль з пасынкам Янам — епіскапам віленскім, пляменнікам Альбрэхтам — герцагам прускім, з Гаштольдам — канцлерам Вялікага княства і ваяводам віленскім. Менавіта ён і хоча наблізіць да двара нейкага палачаніна Францыска Скарыну — у навуках вызваленых і лекарстве доктара. Праз яго канцлер і хоча надрукаваць Статут Вялікага княства пасля яго зацвярджэння сеймам.

Чалавек у чорным. А што кароль?

Бона. Як заўсёды, кароль будзе хітрыць і з Гаштольдам і з каралеваю...

Чалавек у чорным. Як даўно Гаштольд сышоўся з доктарам Скарынай?

Бона. У іх былі адны настаўнікі ў Ягелонскім універсітэце. А яшчэ Гаштольд быў ваяводам полацкім. Менавіта пры ім купцы Скарыны выйшлі на гарады Еўропы і Масковію. Цяпер Гаштольд карыстаецца вучонасцю аднаго з гэтых Скарынічаў.

Чалавек у чорным. Адносіны каралевы з канцлерам?

Бона. Мы ворагі да смерці.

Чалавек у чорным. Не пра тое я!

Бона. Канцлер Гаштольд усімі сродкамі змагаецца за незалежнасць Вялікага княства супраць уніі з Польшчай. Ён жа ўстанавіў адносіны з аўстрыйскім дваром і з прускім герцагам Альбрэхтам. Ён жа авалодаў маёнткамі ў Троках, Вільні, Падляшшы, Любчы, Ашмянах, Біржы, Койданаве. Ён жа разам з Радзівілам пазбавіў мяне магчымасці набыць і адсудзіць маёнткі ў шэрагу паветаў Вялікага княства. І я прасіла б...

Чалавек у чорным. Наша вока ўсё бачыць. Наша вуха ўсё чуе. *(Падае руку для пацалунка.)*

Бона пакорліва цалуе руку і знікае.

## VI

### З успамінаў Скарыны

Вільня. Скарына ў рэзідэнцыі Гаштольда.

Скарына. Даруйце, шаноўны канцлер, але я гляджу на Статут Вялікага княства як на своеасаблівую канстытуцыю незалежнасці слаўнай Літоўскай дзяржавы. І яго друкаванне на друкарскім варштаце стала б не толькі гістарычнай адзнакай высокай прававой культуры ў краі, але і важнай унутранай і знешнепалітычнай акцыяй на ўсходзе Еўропы. Надрукаваны Статут стаў бы першым сапраўдным сімвалам беларускасці. Ён засведчыў бы арыгінальнасць і еўрапейскую годнасць жывой беларускай мовы і пісьмовай культуры. Мова, што б мы ні гаварылі, жыве пад пагрозай паланізацыі.

Гаштольд. Доктар, вы стараецеся пераканаць мяне ў тым, у чым я даўно ўжо пераканаць, і я запэўніваю вас, што выданне Статута чакае большасць адукаваных і знакамітых людзей княства, не кажучы пра шляхту. Але гэтага баяцца дзяржаўцы ў каралеўстве, гэтага не хоча каралева, гэтаму да апошняга будзе перашкаджаць каталіцкая царква, да якой я, дарэчы, належу.

Скарына. Даруйце, але гэта якраз тая «недарэчнасць», якой я не разумею.

Гаштольд *(пасля паўзы)*. Калі дасць вам Бог, некалі зразумееце. Між іншым, я пакуль так і не зразумеў, якому вы Богу самі моліцеся.

**Скарына.** Калі шчыра, то ніякаму, хоць гэта зусім не азначае, што я не маю цара ў галаве, а Бога ў сэрцы...

**Гаштольд.** Брава, доктар!

**Скарына.** Я пра «недарэчнасць» толькі таму, што і польскім магнатам, і каралю, і каралеве, і нават каталіцкай царкве давядзецца лічыцца з тым, чаго хоча беларуская шляхта сваёй Айчыне. Чаго хоча люд паспаліты сваёй Бацькаўшчыне.

**Гаштольд.** Можна зразумець і шляхту, і люд паспаліты, і вас, доктар Скарына, з вашым захапленнем такімі моцнымі сёння ідэямі, як незалежнасць, справядлівасць, дабрыня, чалавекалюбства, асветніцтва, хараство, гармонія...

**Скарына.** Дазволю сабе запярэчыць, што ўсё тое, што вы пералічылі, ужо не мода. Гэтым пачынае жыць цэлы свет. Было б крыўдна спазніцца на гэтае людское свята.

**Гаштольд.** Можа, і не мода. Можа, і не варта спазняцца. Зазначу толькі не ў крыўду, што вы думаеце вельмі далёка ад рэальнасці. А яна жорсткая і няўмольная. Яе трэба ведаць, прадбачыць і ўмець змяняць, а змяняць на карысць усё той жа Айчыны, якую кожны ўяўляе і бачыць па-свойму: кароль — як вотчыну, з якой можна здзерці сем шкур; каралева з епіскапамі — як каталіцкі прыход, у якім можна распараджацца і чужой маёмасцю, і чужымі душамі; магнаты, да іх належу і я сам,— як арэну барацьбы і з каронаю і з папскай курыяй; а шляхта — як поле бітвы з магнацкім самаўладствам. А для тых, хто на самым нізе ці, як вы кажаце, для люду паспалітага, Айчына — гэта тое, што дае ўратавацца і ад каралёў, і ад епіскапаў, і ад магнатаў, і ад шляхты, і бог ведае яшчэ ад якіх насільнікаў усё той жа Айчыны-Бацькаўшчыны, сапраўдных законаў для якой мы, на жаль, яшчэ не напісалі і бог ведае, калі напішам.

**Скарына.** Але тое, што напісалі, павінна быць ведама людзям. Законы павінны жыць, дзейнічаць, змагацца. І гэта яшчэ не ўсё. Законы, якія мы з вамі зрабілі на мове народа, гэта якраз тое багацце дзяржавы і народа, якое сцвярджае іх годнасць перад народамі-суседзямі. Законы, як нішто іншае, садзейнічаюць захаванню, пашырэнню і развіццю мовы і літаратуры, і вы ведаеце, што менавіта яны сцвярджаюць іх значэнне як унутры дзяржавы, так і далёка за яе межамі.

**Гаштольд.** Вы былі б несправядлівы, доктар, калі б западозрылі мяне ў абыякавасці да роднай нам мовы. Тое, што сёння беларуская мова — мова вялікай дзяржавы і што сам кароль вымушаны звяртацца да нас на нашай мове, а каралева трымае пры сабе перакладчыка з італьянскай на беларускую, не ў малой ступені мая заслуга і заслуга маёй канцылярыі. Сёння менавіта яна, канцылярыя канцлера Гаштольда, яе заканадаўцы і пісары надаюць пэўную накіраванасць развіццю мовы народа Вялікага княства. Паны-рада, сейм, мая канцылярыя ствараюць, пішуць і рэдагуюць безліч папер, дакументаў, заканадаўчых актаў і грамат. Мае пісары, як ніхто, ведаюць цану выразнаму слову народа. Ім пакланіся, доктар Скарына! Гэта яны стварылі перадумовы таго, што наша мова стала дзяржаўнаю. І пакуль жыве наша дзяржава, будзе жыць і яе мова.

**Скарына.** Але ж вы не будзеце пярэчыць, што, пакуль жыве мова, будзе жыць і дзяржава. Будзе жыць дзяржаўнасць!

**Гаштольд.** Не буду пярэчыць. Я толькі, бадай што, не здолею дапамагчы вам надрукаваць Статут у межах нашай дзяржавы. Дакладней, каб і здолеў, то мне, як і вам, перашкодзяць зрабіць гэта.

**Скарына** *(у роспачы)*. Але ж гэта наш Статут, а не каралеўскі!

**Гаштольд.** Улічыце, доктар, што Гаштольд толькі канцлер у караля і вялікага князя, а не вялікі князь...

**Скарына.** Шкада.

**Гаштольд.** Шкада.

Абодва смяюцца.

**Скарына.** Што вы параіце мне, шаноўны канцлер?

**Гаштольд.** Я парадуюся разам з вамі, шаноўны доктар, калі вам удасца надрукаваць Статут за межамі нашай Айчыны.

**Скарына.** Бедная Айчына...

**Гаштольд.** Не будзем губляць надзеі пабагацець...

**Скарына.** Не будзем.

Развітваюцца.

*Сцэна зяцямняецца.*

## VII

Кракаў. **Гаштольд** і **Жыгімонт** прагульваюцца па прасцэніуму.

**Гаштольд.** Ваша вялікасць, мы не можам не лічыцца з доктарам Скарынай. Яго непараўнальны розум, дасведчанасць, глыбокія веды ў многіх навуках, яго працаздольнасць і працавітасць на карысць сваёй дзяржавы і свайго народа, нарэшце, яго...

**Жыгімонт** *(перахоплівае).* ...яго упартасць...

**Гаштольд.** І яго ўпартасць. Яна робіць яму гонар, але можа каштаваць і жыцця... І тут у вас, у Польшчы, і там у нас, у Вялікім княстве...

**Жыгімонт.** Што вы яшчэ ад мяне хочаце?..

Гаштольд. Доктар Скарына другі ў Еўропе, пасля чэхаў, пераклаў Біблію на мову свайго народа і надрукаваў яе. Гэта падзея незвычайная, гістарычная падзея! Ад яе нельга адлучыць Скарыну, між іншым, як і ад Статута Вялікага княства, у які ён уклаў і сваю душу і свой розум. Друкарня Скарыны ў Вільні, працу ў якой ён прыпыніў, бо быў заняты Статутам, магла б пакласці пачатак...

Жыгімонт *(вельмі агрэсіўна)*. Я не дазволю друкаваць ерэтычныя кнігі на тэрыторыі *(падкрэслена)* майго каралеўства!

Гаштольд. Скарына мяркуе надрукаваць толькі каралеўскі Статут...

Жыгімонт *(крыху мякчэй)*. Я не магу адмяніць папскія эдыкты на забарону друкавання ўсіх кніг, акрамя богаслужэбных лацінскіх. І вы добра ведаеце, як гэтаму ўзрадаваўся біскуп Ян.

Гаштольд. Я яшчэ ведаю і тое, як ваша вялікасць настойліва вывучала і прыстойна ведае беларускую мову. Біскуп Ян мог бы ў гэтай справе пайсці за бацькам...

Жыгімонт *(амаль па-свойску)*. Ён, як і я, баіцца каралевы і не хоча сварыцца з рымскай курыяй. А дакладней, ён падае сябе большым католікам, чым сам Папа Рымскі, толькі дзеля таго, каб насаліць каралеве. Любасць у іх узаемная і глыбокая.

Гаштольд. І ўсё ж я не думаю, што вы лічыце за лепшае пасварыцца з праваслаўнымі князямі Вялікага княства Літоўскага. А сярод іх нямала міласнікаў асветы і друкаванай кнігі на роднай мове. Возьмем хоць гетмана Канстанціна Астрожскага, хоць князёў Алелькавічаў. Адзін Юрый Слуцкі чаго варты ды і іншыя...

Жыгімонт *(злуецца)*. У вас, канцлер, дурная звычка палохаць.

Гаштольд *(аж хрысціцца)*. Даруйце! Я толькі хацеў папярэдзіць вашу вялікасць, што доктара Скарыну з яго яснай галавою, добрым сэрцам і ўмелымі рукамі можа прыбраць Масковія, як прыбрала ўжо многіх нашых майстроў і мастакоў, што аздобілі іх храмы на зайздрасць усяму свету.

Доктар Скарына паказаў сваю здольнасць не толькі ў перакладзе богаслужэбных кніг на беларускую мову, але і надрукаваў Апостала на царкоўнаславянскай. Гэта якраз тое, чаго яшчэ не было на Маскве. Князі Алелькавічы ў хаўрусе з іншымі вам жа на шкоду могуць дапамагчы і доктару Скарыне і Маскве ўмацаваць і без таго магутнае праваслаўе.

Жыгімонт *(занепакоена)*. Яны не пасмеюць гэтага зрабіць...

Гаштольд. Пасмеюць. Запэўніваю вас, што пасмеюць, як пасмелі некалі пасля смерці караля Аляксандра ўзвесці вашу вялікасць на велікакняскі прастол нават не параіўшыся з польскімі магнатамі. І вы ведаеце, што ім нічога не заставалася, як абраць вашу вялікасць каралём Польшчы.

Жыгімонт *(з прыкрасцю)*. Ну пры чым тут гэта?

Гаштольд. Толькі пры тым, што нашы князі, і праваслаўныя і каталікі, вельмі лёгка дагаварваюцца, калі бачаць, што могуць зрабіць вам прыкрасць, а то і шкоду. А доктар Скарына са сваёй справаю — якраз той выпадак. І я вельмі баюся, каб вялікі князь маскоўскі Васілій III не пасмяяўся з караля польскага Жыгімонта I. А ведаючы схільнасці і характар доктара Скарыны, я маю смеласць запэўніць вас у магчымасці такога смеху.

Жыгімонт. І тым не менш я не магу лютэраніну, а яшчэ горш, схізматыку Скарыне дазволіць друкаваць свае ерэтычныя кнігі ні ў каралеўстве, ні ў Вялікім княстве... Пакуль што я яшчэ кароль! І баста, як кажа каралева.

Г а ш т о л ь д. Відаць, ваша вялікасць хоча, каб лютэранства бесперашкодна паўзло да нас не толькі з Захаду, але і з Усходу.

Ж ы г і м о н т. Гэта не падыходзіць нам тым больш! Гэта было б яшчэ больш небяспечна!

Г а ш т о л ь д. Мушу супакоіць вашу вялікасць і з усёй адказнасцю запэўніць, што доктар Скарына не толькі не прыхільнік лютэранства, а, наадварот, яго перакананы супраціўнік. Лютэранінам жа Скарыну зрабіла папская курыя, каб пашкодзіць яго асветніцкай дзейнасці. Падтрымкай папскіх эдыктаў супраць друкарскай справы вы дамагліся таго, што доктар Скарына фактычна спыніў у Вільні сваю выдавецкую справу. І зараз яму губляць няма чаго. З'едзе хоць у Маскву, хоць зноў у Прагу. А там ведаюць цану друкаванай кнізе. А як многа доктар мог бы зрабіць на карысць умацавання саюза княства з каралеўствам! Іх незалежнасці, як ад Захаду, так і ад Усходу...

Ж ы г і м о н т *(зморана)*. Вы, канцлер, майстра пераконваць. І за гэта я вас люблю. Але і вам ці варта было так хутка кідацца на выкананне тых папскіх эдыктаў...

Г а ш т о л ь д. У крыві ў нас ужо гэта — загадаюць дурням маліцца, дык яны і лбы паразбіваюць...

Ж ы г і м о н т *(зусім прымірэнча)*. Каб не Ян ды каралева, я гэтыя эдыкты наогул бы... Усе навокал друкуюць, а мы сапраўды як тыя дурні... калі з цягам часу з'явіцца магчымасць выправіць справу...

Г а ш т о л ь д. Ваша вялікасць, магчымасць ёсць, і не благая. Трэба толькі ўгаварыць герцага прускага Альбрэхта запрасіць доктара Скарыну ў Кёнігсберг. Я ведаю, што герцаг збіраецца адкрываць універсітэт і наладжваць друкарскую справу. Лепшага за доктара Скарыну параіць цяжка. Мець жа

пры двары такога лекара, як Скарына, палічыць за гонар не толькі герцаг, але і любы кароль.

**Жыгімонт.** У вашай прапанове нешта ёсць. І каралева доктара там не дастане. Пляменнічак у мяне з норавам!

**Гаштольд.** Ваша вялікасць, зрабіце Альбрэхту сапраўдны падарунак! Далібог, ён вам гэтага век не забудзе.

**Жыгімонт.** Абы толькі каралева не здагадалася, пакуль падарунак у нашых руках.

**Гаштольд.** Будзем спадзявацца і маліцца.

**Жыгімонт.** Маліцеся, ды, глядзіце, лоб не расквасце.

Гаштольд кланяецца і выходзіць.

*Сцэна зацямняецца.*

## VIII

Познань. Скарына ў вязніцы. Грымяць запоры, уваходзіць Вартаўнік.

**Вартаўнік.** Добрага ранку!.. Ну, і як?..

**Скарына.** Добрага ранку... Што — «як»?..

**Вартаўнік.** Сам жа казаў, што вылічваеш, хто цябе сюды заканапаціў. Калі вылічыў — гавары, я яму, гаду, пакажу, дзе ракі зімуюць...

**Скарына.** Як вылічу, абавязкова скажу, а то мне аднаму, відаць, не ўправіцца.

**Вартаўнік.** Гэта ўжо сапраўды. Гуртам, кажуць, і бацьку добра біць... А ваўком лепш выць аднаму.

**Скарына.** Чым далей думаю, тым больш завыць хочацца. *(Пасля доўгай паўзы.)* Лепш бы сказаў, што ад мальцаў чуваць...

**Вартаўнік.** Хуценькі Петрачок.

**С к а р ы н а** *(зацікаўлена)*. Хто, хто?..

**В а р т а ў н і к.** А-а-а... Петрачок у нас у Полацку быў, сусед, рухавы такі чалавек. Адначасова мог канём правіць, бручку грызці і малую патрэбу спраўляць. Хуценькім Петрачком і празвалі.

**С к а р ы н а.** Дык я ж яго ведаю. Не раз на чужыне ўспамінаў небараку, калі сам не ведаў, за што раней ухапіцца. І вучня свайго Пятра Мсціслаўца Хуценькім Петрачком называў, калі той адначасова кідаўся і фарбу варыць, і набор ліць, і гравюру рэзаць.

**В а р т а ў н і к.** Можа, твой Мсціславец і яшчэ што такое незразумелае мог, а наш палачанін толькі тое, што я пералічыў...

**С к а р ы н а** *(нечакана)*. А раптам мальцы з дарогі саб'юцца, не даедуць...

**В а р т а ў н і к.** Мае мальцы саб'юцца?!. Лявонка ўжо звечара дома — Анэлька не нарадуецца, а за Андрэйку непакоіцца і нават плача — бог ведае, дзе тая Вільня і што там за біскуп. Ведаў я аднаго — за вярсту на казе не пад'едзеш.

**С к а р ы н а** *(ускоквае з месца)*. Лявонка вярнуўся з Гданьска?!.

**В а р т а ў н і к.** І не адзін — калі ўсё будзе ціха, прывяду я табе сёння пляменніка.

Скарына абдымае Вартаўніка, цалуе яго.

Не абдымайся — я не баба і тым больш не дзеўка. А пляменнік прасіў, каб ты напісаў усе паперы, якія вам у судзе на карысць будуць. Я, кажа, у судовых справах ні выплюнуць ні праглынуць.

**С к а р ы н а.** Затое мне ў іх давялося не аднаго сабаку з'есці.

**В а р т а ў н і к.** Тады пішы і мяркуй, як мы за тваю адседку некаму бакі намнём.

**С к а р ы н а** *(весела, узбуджана)*. Ды давядзецца ўжо!.. *(Ціха.)* А пляменніка Рамана сюды не вядзі — пастка ўсім тром. Закрыецца — не вылезем.

**Вартаўнік.** Сапраўды, гэта нікому не ў шапку, як нячысцік падкоціцца. *(Вяртаецца, вымае з-за пазухі скрутак.)* Аладкі з'ясі. Анэльчыны, з макам.

**Скарына** *(бярэ скрутак)*. Еш дурань, бо то з макам...

**Вартаўнік.** Не забыўся полацкай прымаўкі?..

**Скарына.** Памятаю...

**Вартаўнік** выходзіць. Грымяць запоры.

*Сцэна зацямняецца.*

## IX

### З успамінаў Скарыны

Кёнігсберг. Герцаг **Альбрэхт** праглядае ліст з падвешанай да яго пячаткай.
З'яўляецца **Скарына.**

**Скарына** *(з паклонам)*. Рады вітаць вас, пан герцаг...

**Альбрэхт.** Рады вас бачыць, шаноўны доктар. Мне ўчора сказалі, што вы атрымалі ад сваіх блізкіх нядобрую вестку, якая вымагае часовага ад'езду з Кёнігсберга.

**Скарына.** Так, ваша міласць, і толькі таму, каб знайсці справядлівасць у судзе і абараніць свае маёмасныя правы, парушаныя несумленнымі людзьмі... Хоць больш за ўсё мяне занепакоіла раптоўнае пагоршанне здароўя жонкі... Пры ёй двое малых.

**Альбрэхт.** Вельмі вам спачуваю.

**Скарына.** Шчыра дзякую.

**Альбрэхт** *(крыху напышліва)*. Спадзеючыся на наша хуткае спатканне, калі вы вернецеся да нас з сям'ёю, і пацвярджаючы нашы самыя сардэчныя

да вас адносіны, мы рады дапамагчы вам нашай просьбаю да слаўнага друга нашага канцлера Гаштольда быць да вас уважлівым і спагадлівым.

Скарына. Сардэчна дзякую вам.

Альбрэхт. Мне надзвычай прыемна зачытаць наша пасланне да пана канцлера, каб тым самым яшчэ раз выказаць нашу вам глыбокую павагу і самыя высокія ацэнкі вашай годнасці. І не доўгага нашага знаёмства было дастаткова, каб мы палюбілі вас назаўсёды.

Скарына. Вельмі крануты. Вельмі...

Альбрэхт *(не гучна, але ўрачыста чытае пасланне)*. «У абарону пана Францыска Скарыны з Полацка, доктара медыцыны.

Да пана Гаштольда, 16 мая.

Паклон шлём і ўсякае зычанне са шчырай гатоўнасцю нашай да ўчынення рознага роду міласцей. Знакаміты і высакародны, ■ выдатных сяброў найдаражэйшы.

Не так даўно прыбыў пад нашу ўладу выдатны і шматвопытны муж Францыск Скарына з Полацка, доктар прыгожых мастацтваў і медыцыны, даравіты выкладчык, падданы Вашай высокай Міласці і найслаўнейшага горада Вільні грамадзянін. Звярнуўшы ўвагу як на яго сапраўдны і дзівосны талент, так і найвышэйшае майстэрства, якое ён дэманструе са здзіўляючым бляскам і вопытнасцю, якую набыў, відаць, не інакш як толькі праз сваю шматгадовую працу і падарожжы дзеля пазнання мноства ведаў, мы міласціва прыпісалі яго да ліку і кола нашых падданых і верных мужоў і паставілі яго ў рад тых, да каго прыхільна адносімся...

Просім, каб вышэйназваны доктар Францыск, наш падданы і слуга, не быў пакінуты на волю лёсу, але, згодна з нашым пажаданнем і дзеля неабходнасці і нашага цеснага сяброўства, няхай

Ваша слаўная Вялікасць будзе добры да яго, параіць і дапаможа ў яго справе з бесстароннасцю і справядлівасцю як чалавеку дастойнаму, рэкамендаванаму. За гэта мы Вам як сябру вельмі прыязнаму і ўсім Вашым з усякай рупнасцю і дбайнасцю аддзякуем...

Дадзена ў Кёнігсбергу 16 мая 1530-га». *(Перадае грамату Скарыне.)*

Скарына. Мне толькі і застаецца, што шчыраю і сумленнаю працаю пацвердзіць усё вамі сказанае.

Альбрэхт. Такое ж пасланне Віленскаму сенату я перадам вам перад ад'ездам.

Скарына схіляе галаву.

*Сцэна зацямняецца.*

## X

Кракаў. Чалавек у чорным і Бона.

Чалавек у чорным. Што ўдалося ў Кёнігсбергу?

Бона. Доктар зрабіў памылку, якую яму ніколі не выправіць.

Чалавек у чорным. Дакладней!

Бона. Паверыў хлусні нашага выведніка і не паверыў каралю.

Чалавек у чорным *(настойліва)*. Дакладней!

Бона. Пры адным слове нашага выведніка, што яго жонка раптоўна захварэла, а сваякі накінуліся на спадчыну яшчэ не памерлай, доктар пакінуў Кёнігсберг і памчаў у Вільню.

Чалавек у чорным. Пры чым тут кароль?!.

Бона. Не так даўно кароль па просьбе доктара ўдзельнічаў у разглядзе судовай справы па абароне

спадчыны яго жонкі. Суд вынес рашэнне, якім уся рухомая і нерухомая маёмасць замацоўвалася за жонкаю і дзецьмі доктара на вечныя часы, а яе родзічам было загадана «ў тым вечнае маўчанне меці».

Ч а л а в е к у ч о р н ы м. А як доктар раскалупае правакацыю і вернецца да герцага?..

Б о н а. Не вернецца... Як толькі герцаг даведаўся, што доктар нахабна абакраў яго, тут жа напісаў абуральнае пісьмо канцлеру Гаштольду.

Ч а л а в е к у ч о р н ы м *(амаль урачыста)*. Францыск, сын Скарынін, у навуках вызваленых і лекарстве доктар — злодзей! Не блага! Далібог, не блага! Пры такім спрыце шаноўная Бона Сфорца магла б быць і французскай каралеваю...

Б о н а. А тут ужо ваша прамашка... На карысць вашага ордэна я магла б паслужыць і іспанскаю і англійскаю каралеваю...

Ч а л а в е к у ч о р н ы м *(грозна)*. Язык!..

Б о н а. Я яшчэ не сказала, што ёсць усе падставы зрабіць доктара Скарыну беглым даўжніком і вечным бадзягаю...

Б о н а знікае. Чалавек у чорным глядзіць ёй услед і ціха, злобна смяецца.

## XI

### З успамінаў Скарыны

Вільня. Да Г а ш т о л ь д а ўваходзіць С к а р ы н а.

Г а ш т о л ь д. Не скажу, доктар, што я рады вас бачыць...

С к а р ы н а. Я і сам сябе не люблю з самае раніцы. Нехта разыграў такі дурны жарт.

Г а ш т о л ь д. Вы так думаеце?..

С к а р ы н а. А што ж яшчэ думаць? І жонка здаровая, і каралеўскае рашэнне адносна яе маёмасці ніхто не парушаў, а я кінуў усё на свеце і прыляцеў у Вільню, як той хлапчук... Такога стрэлянага вераб'я на мякіне злавілі.

Г а ш т о л ь д. Відаць, нядрэнныя лаўцы. Чытайце. *(Падае пасланне з пячаткай.)* Уголас чытайце, доктар!

С к а р ы н а *(чытае)*. «Да пана Гаштольда. Альбрэхт, Божай міласцю герцаг прускі.

...Не вельмі даўно, калі мы былі ў Кракаве, звярнуўся да нас нейкі іудзей, заяўляючы, што займаецца медыцынай, і дакучлівымі просьбамі прыставаў, каб ■ нашай згоды і волі дазволілі яму паўсюдна ў нашым уладанні практыкаваць яго гаючае лекарскае мастацтва для карысці нашых падданых, прыгнечаных хваробаю. Палічыўшы яго прсьбы небескарыснымі для нашых падданых, мы міласціва падпісалі іх і дазволілі, і ён разам з намі прыехаў у наш горад Кёнігсберг, уладкаваўся і шмат хворых і іншых занядужалых узяў там жа пад свой дагляд. Між тым прыбывае таксама доктар, нейкі Францыск Скарына, якога мы прынялі ў наша прыдворнае акружэнне. Ён, адпраўляючыся адсюль з нашымі лістамі да Вашай Вялікасці па сваіх справах, якія меў у Вільні, дзе ён спадзяваўся затрымацца, зводніцкім сваім нагаворам гэтага чалавека, іудзея і нашага друкара тайна забраў з сабою, пакінуўшы тым часам тут без дапамогі мноства знясіленых і недалечаных... Нарэшце, з не меншай стратай і для нашых спраў, якія ён меў намер здзейсніць і надрукаваць у друкарні. Гэты дзёрзкі ўчынак чалавека выклікае ў нас прыкрасць з-за крыўды, нанесенай як нам, так і нашым падданым». *(Адрываецца ад аркуша і збянтэжана глядзіць на Гаштольда.)*

Г а ш т о л ь д. Чытайце. Чытайце, доктар...

Скарына *(чытае)*. «Таму мы ветліва просім Вашу слаўную Вялікасць, няхай гэтага доктара Францыска Скарыну павучыць аб недарэчнасці тайнага вываду нашых людзей і асудзіць і зазначыць, што мы адносімся да яго з незадавальненнем і непрыхільнасцю і што мы ад яго не чакалі такога незаслужанага ўчынку, як гэты. І няхай чым хутчэй адашле ад сябе вышэйназванага іудзея да сваіх, тут пакінутых і недалечаных хворых, і верне нам сюды нашага друкара. Гэтага, лічым, мы заслугоўваем за нашу прыхільнасць да Вашай слаўнай Вялікасці, каму найлепш з жонкай і мілымі дзецьмі жадаем жыць у здароўі.

Дадзена ў Кёнігсбергу 26 мая».

Скарына разгублены і прыгнечаны.

Гаштольд *(пасля доўгай паўзы)*. Як усё гэта разумець, доктар Скарына?

Скарына. Гэта загадка... Я і ў вочы не бачыў ні лекара, ні друкара герцага Альбрэхта. І загадка...

Гаштольд *(перапыняе)*. Ніякай загадкі, доктар. Вас проста справакавалі і тым самым назаўсёды адрэзалі шлях да вяртання ў Кёнігсберг.

Скарына *(горача, усхвалявана)*. Я пераканаю герцага! Хіба ў такое можна паверыць — доктар Скарына звёз лекара ад хворых?!. Я ж клятву Гіпакрата даваў!..

Гаштольд. Не пераканаеце. Тыя, хто звёў ад герцага лекара і друкара, пры неабходнасці лёгка іх знойдуць, і можаце не сумнявацца, што «ўкрадзеныя» пацвердзяць вашу несумленнасць і здраду герцагу... Нас перахітрылі, доктар. Друкарня Скарыны за межамі Каралеўства і Вялікага княства некага вельмі напалохала...

Скарына *(зусім разгублена)*. Што ж мне цяпер рабіць?..

**Гаштольд.** Чакаць нечага новага яшчэ больш брыдкага і каварнага. Здаецца, мы з вамі недаацанілі каралеву і тых, хто за ёю... І выйсце ў вас цяпер толькі адно: з'ехаць калі не ў Масковію, то ў Чэхію. Хоць і тое і другое мне не даспадобы.

**Скарына.** У Чэхію я яшчэ паспею...

*Сцэна зацямняецца.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### XII

#### З успамінаў Скарыны

Валакаламскі манастыр. Манаская келля нечым падобная да Скарынавай вязніцы. Адрозніваецца ад яе хіба тым, што чэсаныя палаці прыкрытыя мешкавінаю, а на покуці вісіць абраз. Перад ім пры святле свечкі моліцца Максім Грэк, адбіваючы нізкія паклоны. Колькі яму год — не скажаш, твар пад густой барадою. Ціха ўваходзіць Скарына ў манаскім адзенні.

**Максім Грэк** *(адчуўшы, што нехта стаіць за плячыма, не паварочваючыся)*. Хто ўзяў грэх на душу, перашкодзіўшы малітве?..

**Скарына.** Я, Максім... Я...

**Максім Грэк** *(уздрыгнуўшы ад незнаёмага голасу, але не паварочваючыся)*. Калі ты не прывід, то хто, грэшны?!.

**Скарына** *(амаль шэптам)*. Францыск, сын Скарынін, са слаўнага горада Полацка, у навуках вызваленых і лекарстве доктар...

Максім Грэк таропка, але цяжка паднімаецца з каленяў, Скарына спрабуе дапамагчы яму.

**Максім Грэк** *(уважліва разглядае Скарыну, не пазнае, вагаецца)*. Гэтага не можа быць!..

Скарына. Як жа не можа, калі вось ён — я. А не верыш, патрымай за бараду.

Максім Грэк бярэ Скарыну за бараду. Яна застаецца ў яго руцэ. Дакранаецца да вусоў.

А вусы мае. *(Смяецца, адкідае манаскі капюшон — пад ім доктарскі берэт.)*

Максім Грэк *(у жаху)*. Ты загубіў сябе, Францыск! *(Хрысціцца.)*

Скарына. Што-што, а да самагубства мне яшчэ далёка.

Максім Грэк. Да мяне яшчэ ніхто не заходзіў незаўважаным...

Скарына. У нас кажуць: чорт не выдасць, свіння не з'есць. Даруй за чорта ў святым месцы.

Максім Грэк. Якраз ад свінні і не ўратуешся!

Скарына. Не бойся, Максіме, мае сябры купілі свінню з усімі вантробамі. Будзе маўчаць і толькі рохкаць.

Максім Грэк. А яны адсюль далёка?..

Скарына. Лічы, за дзвярыма.

Максім Грэк *(абдымае Скарыну)*. Францыск!!!

Скарына. Максім!!!

Разглядаюць адзін аднаго.

Максім Грэк. Колькі год! Колькі ж год?!.

Скарына. З 1512-га. Сустрэча ў Венецыі. Друкарня слаўнага кніжніка, настаўніка нашага Альда Мануцыя...

Максім Грэк *(цытуе па памяці)*. «Падуя. Універсітэт. Вышэйшая калегія. Прычына склікання Вашых дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў...

для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філосафаў гімназіі і святой нашай Калегіі. Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца з ласкі Божай выпрабаваннямім у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі».

Скарына. Што было, тое было. Лічы, мінула з тых шчаслівых часоў 18 гадоў без малога. Бяжыць час...

Максім Грэк. Не табе, Францыск, скардзіцца на час. Колькі зрабіў! У 22 гады — доктар, у 27 — перакладчык і друкар Бібліі!.. Я мог бы не менш... *(Як стогн.)* Францыск, я мог бы не менш! *(Утыкаецца тварам у грудзі Скарыне, плечы яго ўздрыгваюць.)*

Скарына *(падводзіць сябра да палацяў і сам садзіцца)*. Як ты апынуўся ў Маскве?! Хто кінуў цябе ў гэтую цямніцу?

Максім Грэк. Было каму, а падставы знайшліся.

Скарына. Хоць колькі слоў, Максім! Я так мала пра цябе ведаю. А чуткі такія супярэчлівыя... Колькі разоў меў памкненні знайсці цябе, ды бясконцыя войны Масквы з Вялікім княствам перашкаджалі. Толькі цяпер з пераміpнымі гарантыямі ды падарожным лістом канцлера Гаштольда рызыкнуў па дарозе ў Маскву збочыць да Валакаламскага манастыра.

Максім Грэк. А мая рызыка ўсяго майго лёсу каштавала. Тут так і кажуць: загінуў Максім — і Бог з ім... У хуткім часе пасля нашага развітання ў Венецыі звярнуўся ў Ватапедскі манастыр на Афон-гары вялікі князь маскоўскі Васілій Іванавіч з просьбаю прыслаць у Маскву часова старца Саву, перакладчыка. З прычыны старасці Савы брація рашыла адправіць мяне як знаўцу многіх моў, а таксама царкоўнай і філасофскай літаратуры.

К таму часу я сапраўды быў на «ты» з багаццямі Ватапедскай бібліятэкі. А падарожжа ў такую загадкавую краіну, як Русь, вабіла незвычайна. У Маскве я быў прыняты вялікім князем і мітрапалітам з гонарам. Першай працай маёй быў пераклад Псалтыры, які заслужыў урачыстага адабрэння духоўнікаў і «сугубую мзду» князеву. Але дамоў па скончэнні нягледзячы на мае настойлівыя просьбы адпусцілі толькі маіх спадарожнікаў з Афона. Я ж працягваў працу над перакладамі, зрабіў вопіс кніг надзвычай багатай велікакняскай бібліятэкі, выпраўляў, па даручэнні князя, богаслужэбныя кнігі — Трыодзь, Часасловец, святочную Мінею, Апостал. Прыгледзеўся тым часам да велікакняскага двара, асоб духоўных і маскоўскага быту і ўбачыў бязладдзе, што супярэчыла хрысціянскаму ідэалу. Не па маёй аскетычнай душы былі грубае распуства, ліхаімства, глыбокае невуцтва, забабоны... З Васіянам Касым і Берсенем Беклемішавым выкрывалі ўсё гэта бязлітасна і наклікалі гнеў мітрапаліта Данііла. Прыязныя ж сувязі з турэцкім паслом Скіндзерам, які, відаць, быў ворагам Русі і хрысціянства, а таксама маё рэзкае неадабрэнне намеру вялікага князя парваць шлюб з жонкаю, канчаткова вырашылі мой лёс. У красавіку 1525 года, калі доктар Скарына ў Вільні ўзводзіў першы верставы слуп культуры і асветы свайго народа, друкуючы Апостала — першую кнігу на сваёй зямлі,— у Маскве ў красавіку — травені таго ж года Сабор судзіць Максіма Грэка.

Скарына. Пра гэта да нас даходзілі чуткі.

Максім Грэк. Вінаватасць мая выводзілася з кніжных выпраўленняў, маёй выкрывальніцкай літаратурнай дзейнасці, маіх кананічных і дагматычных меркаванняў. Думкі ж мае адносна заганнасці славянскіх перакладаў богаслужэбных кніг былі прызнаны «елінскай герассю». І вось я шосты год

ужо ў цямніцы Валакаламскага манастыра «обращения ради и покояния и исправления» са строгай забаронай «сочинять и с кем-либо переписываться». Толькі таму ты і не атрымаў ад мяне горкай весткі, хоць я і ведаў, што ты ў Вільні.

Скарына. І ты змірыўся?! Прыняў свой лёс?!. Трэба ж змагацца! Скардзіцца! Біцца! Пісаць! Пратэставаць! Даваць здачы, не падстаўляць другую шчаку, калі цябе спляжылі па адной...

Максім Грэк. Цёмныя абрысы майго часу, Францыск. Свет жа маёй ісціны для вачэй, зацемненых невуцтвам, аказаўся вельмі рэзкім.

Скарына. Ты і сам аслеп ад цемры. Хіба не бачыш, што мяняюцца часы. Цемра не вытрымлівае промняў адраджэння чалавечнасці, культуры, асветы!

Максім Грэк. Вытрымлівае, і яшчэ як вытрымлівае... Усе скаргі мае і пратэсты трапляюць да мітрапаліта, а той адпісвае, што «узы твоя целуемъ, яко единого отъ святыхъ, пособити же тебе не можемъ». Згубіў надзею на выратаванне і сустрэчу з Радзімаю. Пацвердзіліся словы, што на Маскве гінуць за адзіную літару «аз». І мяне адсюль не выпусцяць хоць бы з тае прычыны, каб не раскрыў я перад праваслаўным светам невуцтва і забабоннасць цемнаты і маскоўскага духавенства і вялікакняскага двара. А за цябе я рад, што працівішся пакуль злу.

Скарына. Пры ўсім пры гэтым я не здраджваю свайму дэвізу: рабі іншым так, як ты хацеў, каб іншыя рабілі табе.

Максім Грэк. Рабі, дружа, як хочаш і як ведаеш, толькі не папракай Максіма Грэка. Чысціня намераў маіх не заплямлена. А тое, што аднялі волю... *(Надоўга замаўкае.)*

Скарына. Хіба мне папракаць цябе...

М а к с і м   Г р э к. І не шкадуй. Раскажы лепш, што задумаў, з чым едзеш у гэты непрадказальны край.

С к а р ы н а. Дрэнь справы друкарскія ў родным краі, дружа Максіме. Кнігі мае пражскія нядобразычліўцы адносяць да лютэранскіх. Пераклады Святога Пісання на родную мову лічаць ерэтычнымі. А нядаўнія папскія эдыкты і наогул забараняюць друкаваць на якой бы то ні было мове, акрамя лаціны. Каралева Бона бачыць наша Вялікае княства паланізаваным і акаталічаным — якая тут ужо свая мова? Кароль Жыгімонт, праўда, глядзіць на рэчы больш цвяроза і ў такі поспех каралевы не верыць, хоць канцлера свайго Гаштольда ўсяляк стрымлівае ад друкавання кніг у княстве на роднай людзям мове. Сын караля, епіскап Вільні Ян, у якога я служу пісарам і лекарам, толькі і хацеў бы, каб я нічым іншым не займаўся. А я хачу рабіць кнігі! Я ведаю іх вартасць для людзей!

М а к с і м   Г р э к. І з гэтым ты едзеш у Маскву...

С к а р ы н а. З гэтым, Максім! З гэтым... Стагоддзямі ліецца кроў на межах народаў-суседзяў. Асвета, духоўнасць, узвышэнне, роўнасць перад адзіным Богам — толькі яны могуць спыніць братазабойствы, з'яднаць народы супраць татарскай, турэцкай, нямецкай навалы, ад якой могуць загінуць і тыя і другія. Канцлер Гаштольд шукае саюзнікаў на захадзе. Кароль Жыгімонт імкнецца прыбраць да рук Белую Русь. Малая Русь яднаецца супраць Русі Вялікай.

М а к с і м   Г р э к. Алелькавічы і паслалі цябе да маскавіцян?..

С к а р ы н а. Некалі яны фундавалі мае пражскія выданні. Сёння я бедны і голы, як царкоўная мыш. І ўсе мае спадзевы на Алелькавічаў.

М а к с і м   Г р э к. Мне падабаецца ваша прымаўка: на спадзевах яешню не спражыш.

**Скарына.** Ёсць і яшчэ адна магчымасць. Князі Шамячыч і Старадубскі павінны былі майму другу і фундатару купцу Багдану Онкаву 900 коп шырокіх грошаў.

**Максім Грэк.** Ці не той самы Шамячыч, якога не так даўно загубіў вялікі князь з дапамогай мітрапаліта Данііла?..

**Скарына.** Той самы. І доўг яго Онкаву перайшоў на самога вялікага князя.

**Максім Грэк.** І ты задумаў спагнаць гэты доўг.

**Скарына.** Менавіта так. І кароль Жыгімонт на нашым баку.

**Максім Грэк.** Пара б табе, доктар, калі не памудрэць, то хоць бы пасталець.

**Скарына.** У крайнім выпадку мы пагодзімся даравацъ доўг вялікаму князю, калі ён пагодзіцца на адкрыццё ў Маскве друкарні, у якой бы я мог рабіць кнігі як на патрэбу княскага двара і рускай праваслаўнай царквы, так і на вываз у свой беларускі край.

**Максім Грэк.** З паршывай авечкі хоць воўны касмыль.

**Скарына.** Хоць бы сабе і так...

**Максім Грэк.** Шчаслівы той, хто веруе. Толькі вера — гэта адно, а веда — другое. І раней, чым на Маскву ехаць, тое-сёе трэба было б пра яе норавы ведаць. А норавы тут трохі іншыя, чым, скажам, у Венецыі ці Празе, у Кракаве ці Вільні. З гэтае прычыны мушу засцерагчы, бо само асяроддзе Маскоўшчыны, якая ледзь паспела вылузацца з татарскага ярма, рызыкоўнае і небяспечнае для чужынца, асабліва калі ён яшчэ чалавек у нечым дасведчаны. Край гэты пакуль пазбаўлены ўсякае асветы і асяродкаў яе. Тутэйшыя духоўнікі і дзяржаўцы перакананы, што асвета тут не толькі

непатрэбная, але можа і пашкодзіць. Дзяржава бытуе пакуль па-за еўрапейскім духоўным светам. У кожнай галіне свайго бытавання пануюць звычкі, перанятыя ад татарскага складу і ладу жыцця. Тут яшчэ ніколі не пахла і сёння не пахне талеранцыяй, верацярпімасцю. Тут нязменна пакуль пануюць дагматызм і нязноснасць. Ні ідэя крытыкі, ні ідэя талеранцыі, ні ідэя духоўнага хрысціянства не даступны ні двару, ні духоўнікам, я ўжо не кажу пра іншых. Для аграмаднай большасці пасяленцаў дзяржавы ідэі гэтыя проста незразумелыя. Тут шукаюць «хулу», «ерась» у кожнай дробязі. Ты проста не ўпішашся ў рамкі артадаксальнага маскоўскага дагматызму і жорсткага дэспатызму маскоўскага самадзяржаўя.

Скарына. Я быў бы рад, калі б ты памыляўся, Максім.

Максім Грэк. Не абяцаю ўцешыць — я многае тут пабачыў, а колькі яшчэ пабачу... Не так ужо даўно ў грубай жорсткасці тутэйшых звычаяў трагічна пераканаліся два заходнія лекары. Лекар Антон Немчын па загаду вялікага князя лячыў татарскага князя Каракучу. Лячэнне не ўдалося, хворы памёр. Тады вялікі князь загадаў лекара забіць. Татары-сваякі завялі Немчына пад маскварэцкі мост і там, як сведчыць летапісец, «зарезали ножом яко овцу». А пазней захварэў на ламоту ў нагах сын вялікага князя Іван. А ў Маскве быў гэтым часам лекар Лявон Жыдовін з Венецыі. Лячыць сына князь загадаў яму. Ды стан хворага горшаў, а хутка ён і памёр. Тады князь кінуў лекара ў цямніцу. Калі ж ад смерці князевага сына мінула 40 дзён, лекара Лявона завялі на плошчу Балванаўку і там адсеклі яму галаву.

Скарына. Ты мяркуеш, што і мне давядзецца лячыць некага з вялікакняскай сям'і?..

Максім Грэк. А я не толькі пра лекараў, я табе і пра друкара скажу. Прыехаў неяк на Маскву

вядомы любецкі друкар Барталамей Готан, каб друкарню наладзіць і кніжкі рабіць. За справу ўзяўся. А праз нейкія паўтара гады яго немаведама за што звінавацілі, абрабавалі і ўтапілі. Так што сам мяркуй...

**Скарына.** І ўсё ж я паеду да вялікага князя Васілія Іванавіча.

**Максім Грэк.** Вольнаму — воля, здаецца, так у вас гавораць.

**Скарына.** Так! Так, мой дружа Максіме! А за перасцярогу — дзякуй. Спадзяюся, што вялікі князь не пасмее затрымаць мяне хоць бы з тае прычыны, што за мною перамірныя гарантыі пра незачэпнасць купцоў Літвы ў Маскоўшчыне, а маскоўскіх у Літве.

**Максім Грэк.** Які ж ты купец?

**Скарына.** На гэты раз у першую чаргу купец. Друкаром адкрыюся толькі пасля таго, як добра прадам, як тавар пойдзе, як вялікі князь маімі кнігамі зацікавіцца.

**Максім Грэк.** Мітрапаліт Данііл імі першы зацікавіцца... Скажу шчыра, Францыск, баюся я за цябе. Вельмі баюся...

**Скарына.** Будзем спадзявацца. А пры добрым ладзе я за цябе перад князем пахадайнічаю. Не гніць жа такому разумнаму і слаўнаму чалавеку ў гэтай яме.

**Максім Грэк.** Ратуй цябе Божа, Францыск!

Ціхі стук у дзверы.

**Скарына.** Пара мне, Максім...

Абдымаюцца.

**Максім Грэк.** Ратуй цябе Божа...

**Скарына** выходзіць.

*Сцэна зацямняецца.*

## XIII

Кракаў. Бона набліжаецца да Чалавека ў чорным.

Чалавек у чорным. Сёння не пытаюся, але сам паведамляю навіну радасную: пасля няўдач у Кёнігсбергу доктар Скарына прыбыў да маскавіцян з намерам стварыць на Маскве друкарню. На шчасце, вялікі князь папярэдне пазнаёміўся ■ кнігамі ерэтыка і загадаў спаліць іх на кастры. Сам жа доктар уратаваўся ўцёкамі.

Бона. Санта Мадонна! *(Хрысціцца.)*

Чалавек у чорным. Будучы самі невукамі, духоўнікі-схізматыкі імкнуцца ўсімі сродкамі перашкодзіць распаўсюджанню асветы, баючыся, што выявіцца іх уласнае невуцтва і несумленнасць. З гэтай прычыны яны пераконваюць сваіх князёў, што ўсялякі поспех у адукацыі можа выклікаць пераварот у дзяржаве і, такім чынам, павінен быць небяспечным для іх улады.

Бона. Выходзіць, і нам ёсць чаму павучыцца ў маскавітаў?

Чалавек у чорным. У гэтым выпадку яны маюць рацыю, таму што чалавеку разумнаму і ўзвышанаму ведамі і свабодным выхаваннем цяжка пераносіць тыранічны лад...

Бона. Няўжо вы і там, у Маскве, дасталі беднага Скарыну?

Чалавек у чорным. Што не, то не. Ён сам сябе ледзьве не ўзвёў на касцёр. Не ўлічыў небарака і падараваў вялікаму князю Апостала з пасляслоўем: «...при держаніи наіласкавшего господаря Жикгымонта Казіміровича, короля полского, и великого князя литовъского, и рускаго, и жомоитьскаго ■ иных во славном месте Виленском. Выложена и вытиснена працею и великою пилъностию доктора Франциска Скорины с Полоцка...» Хіба ж

мог сцярпець вялікі князь маскоўскі «караля рускага», калі ён сам сябе лічыць і рускім, і жамойцкім.

Бона. Сапраўды, прамахнуўся доктар...

Чалавек у чорным. І нам пара браць яго за шчэлепы, пакуль ён не збег у Чэхію ці яшчэ куды.

Бона. З нашае ласкі на доктара даўно ёсць каралеўскі ўказ аб затрыманні яго як беглага даўжніка і бадзягу.

Чалавек у чорным. І ў каго ж ён пазычыў, каб збегчы?..

Бона. У варшаўскіх ліхвяроў-іудзеяў.

Чалавек у чорным. І кароль ведае?..

Бона. Дай Бог каралю ведаць тое, што яму трэба ведаць...

*Сцэна зацямняецца.*

## XIV

Познань. Грымяць запоры. У вязніцу ўваходзяць біскуп Ян, Войт і Раман.

Ян. Хрыстос уваскрэс, доктар Скарына!

Скарына. Відаць, што уваскрэс, раз вы тут, пан епіскап.

Ян. Не кашчунствуй, грэшны. Сёння Вялікдзень...

Скарына. Можа, і грэшны, толькі не вінаваты ні перад Богам, ні перад людзьмі. *(Хрыстосуецца з Янам.)*

Ян. Што здарылася, доктар?

Скарына. Пра гэта лепш запытацца ў войта слаўнага горада Познані. У яго, а можа, і не толькі ў яго руках тут суд і права.

Ян. Уціхамірся, доктар!

Скарына. Даруйце, пан епіскап, але мой гонар і мая годнасць — гэта адзінае, чым я магу абараніцца ад абразы і хцівасці.

Я н *(да Войта).* Што ўлады Познані маюць да слаўнага доктара Скарыны?

В о й т *(раскрывае паперы, чытае).* «Жыгімонт, з ласкі Божай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі і г. д., гаспадар і дзедзіч.

Усім і кожнаму з ваяводаў, кашталянаў, саноўнікаў і ўраднікаў, старостаў... гарадоў і мястэчак, бурмістрам, радцам *(з націскам)* войтам і іншым нашым падданым, у якім бы стане, чыне і вартасці яны ні былі ў каралеўстве, панам вяльможным, пастаўленых намі, да якіх дойдзе гэта наша шчырая грамата, а таксама паважаным давераным — наша каралеўскае благаславенне! Шчыра паважаныя давераныя нашы, калі мы зусім нядаўна былі ў горадзе нашым Вільні, паскардзіліся нам Лазар, сын, і Майсей, зяць старога Майсея, іудзея нашага варшаўскага, што слаўны памёршы Іван Скарына, наш віленскі грамадзянін, застаўся вінен яму дзвесце шэсць коп грошаў, а таксама заявілі і давялі, што доктар Францыск, яго брат, узяў сабе ўсё дабро, якое засталося пасля смерці самога Івана. Загадваем гэтаму доктару Францыску заплаціць ім... дзвесце шэсць коп грошаў. А таму, што гэтыя самыя іудзеі Лазар і Майсей скардзіліся нядаўна ў нашай прысутнасці, што названы доктар Францыск уцёк з горада Вільні, пераязджае з аднаго месца ў другое, бадзяецца і зрабіць ім выплату названай сумы не хоча, загадваем вам, каб для гэтых варшаўскіх іудзеяў Лазара і Майсея ў адносінах да наконт раней названага доктара Францыска Скарыны, у якім бы месцы яны самі або іх павераныя або слугі не знайшлі яго, каб вы праз іх адшукалі неабходнае і неадкладнае правасуддзе і скарысталі яго да Скарыны як да чалавека беглага і маёмаснага і каб не вызвалялі яго да таго часу, пакуль сапраўды не задаволіць іх, іудзеяў, на суму ў дзвесце шэсць коп

грошаў. І, па нашай міласці, не рабіце па-іншаму. Дзеялася ў Кракаве, у панядзелак [5 лютага] у год Божы тысяча пяцьсот трыццаць другі... *(Паказвае на пячатку.)*

Да ўласнага ўказа Каралеўскай Вялікасці».

Ян *(забірае ўказ, разглядае подпіс і пячатку)*. Вы верыце ўсяму гэтаму, сын мой?

Войт. Я веру каралю, святы айцец. *(Схіляе галаву.)*

Ян. Трэба яшчэ верыць і Богу, сын мой...

Войт *(вінавата)*. Я не спяшаўся судзіць доктара, святы айцец, і нават збіраўся адпусціць яго, але ж...

Ян. Сын мой, вы да гэтага асабіста ведалі доктара Скарыну?

Войт. Я добра ведаў яго брата, купца Івана Скарыну. Справядлівы быў чалавек. Яго ўся Познань ведала.

Ян. А што вы скажаце пра старога Мойшу?

Войт. Тое ж, што і пра сына [illegible] зяцем... Ліхвяры... Што ж тут яшчэ скажаш? Толькі *(прыкрывае дзверы, амаль шэптам)*, здаецца мне, святы айцец, і яны не самі па сабе ўз'еліся на падсуднага. І каралю веру, і грэх вялікі чую. Нутром чую, святы айцец. *(Хрысціцца.)*

Ян. Войт, ці не мог бы ты пакінуць нас?

Войт *(пасля паўзы)*. Мог бы, толькі вельмі баюся, каб вартаўнік не данёс і на мяне, і на вас таму, хто заадно з Мойшам.

Ян. Я вазьму клятву з вартаўніка. Урэшце, біскап я ці не біскап?!.

Войт. Толькі ненадоўга, святы айцец, а то, не дай Божа, і мне будзе тое ж, а то і горай, чым доктару. Тут, у нас у Познані, усе павязаны. Адно слова — ліхвяры... павукі... *(Выходзіць, прычыніўшы дзверы.)*

Я н. Доктар Скарына, я паспрабую дапамагчы вам, толькі абяцайце, што застанецеся маім сакратаром і лекарам. Не мне вам казаць пра сваё здароўе.

С к а р ы н а. Хіба ж я калі парушаў клятву Гіпакрата?

Я н. І яшчэ... Пакляніцеся, што не будзеце больш друкаваць ерэтычных кніг на мове люду паспалітага.

С к а р ы н а. Ерэтычных пакуль не буду, а Статут Вялікага княства Літоўскага надрукую!

Я н. Загубіце вы сябе, доктар.

С к а р ы н а. Бадай што... Надрукаваць Статут — мой святы абавязак перад Айчынай, справа майго грамадзянскага сумлення. Калі ж здолею быць вашым сакратаром і лекарам — і надалей палічу за гонар.

Я н *(нечакана)*. Подпісы на ўказах не каралеўскія, хоць пячаткі і сапраўдныя.

С к а р ы н а. Мне так і падумалася...

Я н *(зняпацку)*. Курва!

С к а р ы н а. Хто?

Я н. Бона Сфорца Арагонская... Еду ў Кракаў! Разам з Раманам еду! Вазьму яшчэ адзін грэх на душу...

С к а р ы н а. Вазьміце і не пашкадуеце... Святы Пётр залічыць вам яго як подзвіг. Я ж у сваю чаргу пастараюся сваім лекарскім майстэрствам як мага далей адцягнуць вашу сустрэчу са святым Пятром каля райскіх варот.

Я н *(па-свецку падаючы руку на развітанне)*. Калі б у вас, шаноўны, так ныла печань, як у мяне, вы не жартавалі б.

С к а р ы н а. Пазайздросціў лысы пляшываму...

Я н *(Раману)*. Пашапчыся з дзядзькам, а я войта папільную. *(Выходзіць і вяртаецца.)* Наконт дзя-

цей, Францыск, не турбуйся — пры мне яны. *(Зачыняе за сабой дзверы.)*

Скарына *(Раману)*. Каб не сутана, цаны б не было пану Яну. *(Абдымае пляменніка.)* Ну што табе ўдалося? У каго быў? Каго бачыў?

Раман. Пакуль чакаў біскупа Яна, усё зрабіў, як вы ў пісьме пісалі: наняў паверанага; з ім жа наведаў суд, дзе перад радцамі, войтамі і лаўнікамі заявіў, што з'яўляюся прамым спадчыннікам свайго бацькі Івана Скарыны, а доктар Францыск Скарына нічога не вінен ліхвяру Мойшу і што я за гэта магу не толькі паручыцца, але і ўступіць у спрэчку ■ самім ліхвяром. Па маім патрабаванні суд выклікаў Мойшу старога, але ні ён сам, ні яго паверaныя да ўстановы не з'явіліся. Тады я запатрабаваў ад суда прызнаць мяне паручыцелем і пасрэднікам свайго дзядзькі, а дзядзьку на падставе гэтага аб'явіць свабодным і з турмы вызваліць.

Скарына. Разумна.

Раман. Суддзі абяцалі абмеркаваць гэта і даць адказ, але так і не далі. Тады я заявіў, што гатовы даць задатак за дзядзьку, і патрабаваў прызначыць суд для ацэнкі задатку. Больш таго, я сказаў, што разам з ацэненым задаткам гатоў быць падуладным самім іудзеям аж да канчатковага вырашэння справы. А дзядзька, натуральна, павінен быць аб'яўлены вызваленым ■ турмы.

Скарына. Ты проста малайчына!

Раман. Суд рашыў, а іудзей на задатак спакусіўся і праз свайго ўпаўнаважанага Якаба Бжоску атрымаў яго. Атрымаў і папаўся. Наш паверaны так і кажа: паколькі іудзей уступіў са мною ў судовую спрэчку і прыняў задатак ад мяне, а не ад доктара Скарыны, то сам доктар зрабіўся свабодным ад турмы.

Скарына. Цудоўна! Толькі чаму я ў такім выпадку тут?

Раман. Чаго не ведаю, таго не ведаю.

Скарына. У тым і справа, што мы не ведаем, дзе сабака закапаны... Будзеш з епіскапам у Кракаве — вуха трымай востра і ні пры якіх абставінах нідзе і нікому, акрамя караля, не прызнавайся, што ты мне сваяк. Гульня наша з каралевай не на жыццё, а на смерць.

Абдымаюцца на развітанне.

*Сцэна зацямняецца.*

## XV

Кракаў. Чалавек у чорным і Бона.

Чалавек у чорным. Хто ўчора быў у караля?

Бона. Гаштольд і біскуп Ян.

Чалавек у чорным. Паасобку ці разам?

Бона. Паасобку.

Чалавек у чорным. А мне падумалася...

Бона. Але з Янам быў яшчэ і нейкі юнак.

Чалавек у чорным. Юнак?

Бона. Так.

Чалавек у чорным. Значыцца, здарылася горшае... Пра што гаварыў кароль з Янам і з юнаком?

Бона. Ён прымаў іх у спальні.

Чалавек у чорным. Які гонар! Які этыкет!

Бона. Хворы кароль мог прыняць сына і ў спальні.

Чалавек у чорным. А нейкага невядомага нам юнака?.. Пра што гаварылі?!

**Бона.** У спальню караля адзін уваход. Там няма вокнаў — кароль ратуецца там ад чужога вока і бяссонніцы...

**Чалавек у чорным.** Бона Сфорца Арагонская не мае доступу да каралеўскай спальні?.. І пры гэтым выхваляецца, што магла б паслужыць і французскай каралевай.

**Бона** *(аж ускіпае).* Санта Мадонна! Гэта ўжо праз край! Вы не лічыцеся са мною, як з каралевай, але не забывайце, што я яшчэ і жанчына!

**Чалавек у чорным** *(здзекліва).* Жанчына, вам бы ведаць, што каралеўскі сынок Ян ратуе доктара Скарыну! Усе нашы старанні, даруйце, кату пад хвост! І цяпер яго вялікасць спытае вашу вялікасць за ўказы, падпісаныя ад яго імя...

**Бона** *(перапалохана).* Але да гэтага часу ніхто не мог адрозніць мой подпіс ад каралеўскага!..

**Чалавек у чорным.** Да гэтага часу...

**Бона.** Вы палохаеце мяне, майстар?!. Пры чым тут доктар Скарына? Епіскап Ян не так ужо рэдка пакідае Вільню і прыязджае ў Кракаў...

**Чалавек у чорным.** Кучар епіскапа сказаў, што яны прыехалі з Познані, дзе святы айцец наведаў бурмістра, суд і турму!

**Бона.** Санта Мадонна! Калі ў вас кучар ведае больш, чым каралева, наступны раз пытайцеся ў кучара і пра караля!

**Чалавек у чорным.** У біскупа свой кучар, у караля свой, а калі каралева не давярае свайму кучару, то няхай ходзіць пешкі. *(Знікае.)*

Бона доўга глядзіць услед Чалавеку ў чорным.

*Сцэна зацямняецца.*

## XVI

Познань. Гарадскі суд — бурмістр Скаргардыян, Войт, радцы і лаўнікі. У пакоі епіскап Ян, павераны Скарыны Мацей Лонгій і пляменнік Францыска Скарыны Раман. Вартаўнік прыводзіць Скарыну. Ён усё ў тых жа лахманах.

Скаргардыян. Падыходзьце бліжэй, падсудны...

Скарына. Я не падсудны, хоць і закаваны, а таму пратэстую!..

Скаргардыян *(Вартаўніку).* Здыміце кайданы з падсуднага!

Скарына. Са зняволенага і невінаватага...

Вартаўнік здымае кайданы.

Скаргардыян. Якія будуць хадайніцтвы?..

Скарына. Вы, пан бурмістр, як абодвух праў і медыцыны доктар, відаць, разумееце, што ў сваёй доктарскай мантыі я адчуваў бы сябе перад вамі гэтак жа ўпэўнена, як і вы сябе перада мною. А таму прашу...

Скаргардыян *(перапыняе).* Будзем зыходзіць з таго, доктар, што яго святая Каралеўская Вялікасць патрабуе судзіць вас згодна з законамі, да складання якіх вы мелі непасрэднае дачыненне.

Скарына. Кароль памыляецца! Караля завялі ў зман! Караля маглі проста абысці!

Скаргардыян. Падсудны, пазбаўляю вас слова. А за абразу святой Каралеўскай Вялікасці вы адкажаце асобна.

Скарына. У такім разе за мяне скажа мой павераны магістр Мацей Лонгій. Што да абразы караля, то яе дапусціў той, хто злосна і беспадстаўна агаварыў яго падданага, які мае ўласны герб.

Скаргардыян. Падсудны, суд улічыць і вашу дзёрзкасць!

**Скарына.** Лепш бы суду ўлічыць маю невінаватасць...

**Скаргардыян.** Яшчэ раз папярэджваю, што суд можа разгледзець справу і без адказчыка... Ваша слова, магістр Лонгій.

**Лонгій** *(пакланіўшыся суддзям)*. Мушу зазначыць, шаноўныя суддзі, што, не выклікаўшы істца і пазбавіўшыся ад даўжніка, суд пазбавіцца законнай падставы разглядаць справу, не кажучы пра справядлівасць рашэння. З гэтае прычыны і я і мой прынцыпал доктар Скарына настойваем на абавязковым выкліку ў суд варшаўскага іудзея Майсея.

**Скаргардыян.** Даводжу высокаму суду, што я, выконваючы свае абавязкі, даручыў служку Іаану Кракоўскаму яшчэ ў мінулую суботу выклікаць у суд вышэйназванага іудзея. Тады ж, у суботу, ён з'явіўся да мяне асабіста і спаслаўся на суботняе свята, у час якога яму не можна нічога рабіць або распачынаць. І папрасіў, каб тэрмін, вызначаны яму ў позве, быў прадоўжаны да панядзелка. Сёння зноў субота, і ён, на жаль, зноў не з'явіўся. А ўказ караля — гэта ўказ караля! І тым больш што ён дае суду ўсе падставы абвінаваціць беглага даўжніка і спагнаць з яго тое, што спагнаць належыць.

**Лонгій.** Маю гонар запярэчыць пану бурмістру і давесці суду, што каралеўскі ўказ якраз і не дае падстаў звінаваціць шаноўнага доктара Скарыну, бо суд павінен кіравацца законам і справядлівасцю, а не пажаданнямі, калі яны нават каралеўскія, у чым я і мой прынцыпал сумняваемся. А таму прашу занесці дзіўныя тлумачэнні пана бурмістра ў кнігу судовых актаў. Што да наўмыснага нез'яўлення іудзея ў суд, то ад імя свайго прынцыпала доктара Скарыны і сябе асабіста заяўляю вусна і ў паперах пратэст. *(Перадае паперу бурмістру.)*

С к а р г а р д ы я н. Пратэст адхіляецца! На стале ў суддзяў указ святой Каралеўскай Вялікасці.

С к а р ы н а. Скажыце, калі ласка, як вы, доктар абодвух праў, паводзілі б сябе, калі б на стол суддзяў лёг указ святой Каралеўскай Вялікасці, скажам, у абарону таго ж доктара Скарыны?..

С к а р г а р д ы я н. Апошні раз папярэджваю: не задавайце пытанняў суддзям, пакуль яны не пазбавілі вас магчымасці прысутнічаць пры разборы справы!.. Прадаўжайце, пан магістр.

Л о н г і й. Паважаны пан бурмістр, пан войт, паны лаўнікі і радцы! Я, Мацей Лонгій,— заступнік выдатнага мужа пана Францыска Скарыны, мастацтваў і медыцыны доктара, сакратара і лекара найяснейшага і найдастойнейшага пана і гаспадара епіскапа віленскага Яна, які прысутнічае тут і дапамагае ў справе супраць хлуслівага іудзея Майсея, заяўляю, што гэты хлуслівы іудзей разам з саўдзельнікам цяжбы лжывым расказам, зробленым перад святой Каралеўскай Вялікасцю, у якім ён ілжыва заявіў, што Скарына пасля смерці свайго роднага, вечная яму памяць, брата быў і ёсць вінен яму, Майсею, дзвесце шэсць коп і што з-за гэтага доўгу Скарына нібыта ўцёк з Вільні і блукае ўсюды, і падманам дамогся ўказа, які звычайна пашыраецца толькі на злачынцаў і яўных бадзяг або на абвінавачаных даўжнікоў, якія не могуць выплаціць доўг, што з'явілася найбольшай несправядлівасцю для майго прынцыпала. У сілу патрабаванняў гэтага ўказа ён, іудзей, дамогся заключэння доктара Скарыны, абвінавачанага як злачынца без усякага на тое грамадзянскага іску і раней, чым законным чынам зроблена гэта абвінавачанне, у гарадскую турму, а таксама спагнання вялікай пені з найвялікшай шкодай, цяжарам і стратамі як для самога доктара, так і для найяснейшага і найдастойнейшага пана

і гаспадара епіскапа віленскага, у якога знаходзіўся на службе як прыбліжаны і слуга сам доктар.

Скаргардыян. Вы змарылі нас, магістр.

Скарына. Калі можна, пан бурмістр, я выпраўлю прамашку магістра?!.

Скаргардыян. Гэта нават цікава, калі, вядома, не доўга і без дзёрзкасці.

Скарына. Божа мяне барані! Я толькі скажу, што ўсе гэтыя несправядлівасці і заключэнне ў турму, спагнанні і страты для мяне асабіста з-за названага Майсея і з ім звязаных, я падкрэсліваю, і з ім звязаных людзей, я ацаніў на суму шэсць тысяч залатых венгерскіх фларынаў сапраўднай і належнай вагі. І паколькі хлуслівы іудзей, выкліканы па позве, у тэрмін беспадстаўна не з'явіўся і не з'яўляецца і не збіраецца з'яўляцца перад судом, я патрабую, каб судовая справа, на якой грунтуецца іск, была вырашана на маю карысць, а сам хлуслівы іудзей Майсей як прайграўшы быў асуджаны згодна з найбольш відавочнымі палажэннямі права... А калі больш канкрэтна, то Лазара, сына, і Майсея, зяця старога Майсея, як і яго самога, судзіць згодна з артыкулам першага Статута Вялікага княства Літоўскага, які дэкларуе: калі б хто агаворам-паклёпам абвінаваціў каго і абвінавачаны павінен быў бы падлягаць ганьбаванню ці смяротнай кары, ці канфіскацыі маёмасці, ці якому іншаму пакаранню, тады той, хто агаварыў іншага, але не прадставіў доказаў, сам павінен панесці такое пакаранне. Калі так здарыцца, буду надзвычай уцешаны, бо гэты артыкул для Статута сфармуляваў я сам і здолеў адстаяць перад каралём.

Скаргардыян. Вы ад сціпласці не памраце, шаноўны доктар.

Скарына. Так, калега. Пра гэта мне гаварыла сама найяснейшая каралева. Я калі і памру, то ў

бойцы за свой гонар і годнасць. Аддаваць жыццё за нешта іншае проста не рацыянальна.

Скаргардыян. Мы так і зразумелі. Утаіўшы ад Майсея дзвесце шэсць коп, вы можаце купіць сто баявых коней, а высудзіўшы ў таго ж Майсея шэсць тысяч залатых фларынаў, прыдбаць яшчэ і тры тысячы валоў. Ці не на Маскву вайной сабраўся шаноўны пан доктар?

Скарына. На валах і конях я некалі павязу на Маскву свае кнігі.

Скаргардыян. Доктар, апусціцеся на зямлю. Ваша становішча такое ж безнадзейнае ў Познані, як і ў Маскве...

Скарына. Вы так думаеце?

Скаргардыян. Перада мною другі ўказ святой Каралеўскай Вялікасці, дастаўлены ў суд самім Майсеем. *(Бярэ са стала паперу, зачытвае.)* «Шаноўным бурмістру і радцам горада нашага Познані, дарагім давераным — наша каралеўскае благаславенне. Дарагія давераныя, расказаў нам, прыйшоўшы сюды, іудзей Майсей, зяць старога Майсея з Варшавы, што вы, атрымаўшы наша пасланне, прад'яўленае вам ім самім, зрабілі так, каб там, на месцы, быў затрыманы доктар Францыск з Вільні, так званы Скарына, на якога скардзяцца сам Майсей з Лазарам, сынам згаданага старога іудзея з Варшавы... Мы ўхваляем стараннасць вашу, якую вы праявілі пры выкананні нашага ўказа... Даручаем вам, каб вы здзейснілі належнае і неадкладнае правасуддзе да згаданага Францыска на падставе сумы ў дзвесце шэсць коп на карысць гэтым жа Майсею і Лазару і не вызвалялі датуль гэтага доктара Францыска, пакуль над ім там жа на месцы не завяршыцца правасуддзе, і інакш не рабіце па абавязку вашаму і па міласці нашай. Дадзены ў Кракаве [2 мая] у год Божы 1532-і».

**Скарына.** Я папярэджваў вас, шаноўны калега, Валянцін Скаргардыян... Давай, Раман!

**Раман** *(разгортвае скрутак з падвешанай пячаткаю).* Я прывёз ад святой Каралеўскай Вялікасці грамату... *(Зачытвае разгубленым суддзям.)* «Жыгімонт і г. д. Абвяшчаем і г. д. З'явіўшыся асабіста перад намі, прадбачлівы юнак у правамоцным узросце Раман Скарына, віленскі грамадзянін... заначыў публічна перад намі, што... доктар Францыск ніякага дабра, якое засталося пасля смерці Івана Скарыны, яго бацькі, не атрымліваў, бо ён сам, Раман, атрымаў у спадчыну цалкам і па частках маёмасць таго ж Івана як праўдзівы і законны сын і спадчыннік, і некаторыя бацькавы даўгі, прызнаныя законнымі, ён ужо сплаціў, а яшчэ нясплочаныя гатоў сплаціць.

Мы [кароль] жадаем засведчыць гэта ўсім, каго датычыць, і загадваем гэтай граматай: каб вышэйназванага доктара Францыска Скарыну не выклікалі ні ў якія вашы судовыя інстанцыі і не судзілі за якія б ні было даўгі і маёмасць яго роднага брата... і каб пазбавілі яго ад нападаў і дамаганняў з боку ўсякіх крэдытораў якога б там ні былі абраду... І няхай не з'явяцца таму перашкодай якія б ні было лісты, любога зместу і даты, выдадзеныя нашай канцылярыяй супраць таго, каго мы вызваляем і аб'яўляем свабодным ад іх выплаты гэтай граматай. У пацвярджэнне чаго прыціснута наша пячаць. Дадзена ў Кракаве [21 лістапада] у год 1532-і праўлення нашага 26-ы».

**Скаргардыян** *(крыху абурыўшыся).* Што ж вы трымаеце пры сабе такія паперы. *(Забірае ў Рамана ўказ, разглядае пячатку.)* Выходзіць, вы свабодны, калега! *(Загадвае Вартаўніку.)* Мантыю доктару Скарыне.

**Скарына.** Свабодны я быў заўсёды. Абражаным жа аказаўся з ласкі мярзотнікаў. А таму прашу

суд не проста вызваліць мяне з няволі, а згодна са звычаем і законам у судовым парадку прызнаць мяне невінаватым з самага пачатку. Тым больш што Раман прывёз каралеўскі ўказ і для вашай асабістай міласці. *(Вымае з-за пазухі скрутак, разгортвае і зачытвае.)* «Скарына быў несправядліва пасаджаны там у вас у турму і ў адносінах да яго раней не было знойдзена ніякага правасуддзя па яго праву... Мы даведаліся з данясення некаторых нашых дарадчыкаў, з тагачаснай пастановы вашага суда і з адкрытага сведчання, што... Францыск Скарына з'яўляецца вельмі паважаным і маёмасным чалавекам... Пры такім стане спраў загадваем вам гэтым указам неадкладна адпусціць згаданага Францыска Скарыну, які ў вас пасаджаны ў турму. Мы не хочам, каб нашы падданыя, перш за ўсё маёмасныя, па простым абвінавачванні кожнага так ганебна саджаліся ў турму». *(Перадае ўказ Скаргардыяну.)* Скажыце, калега, а калі б кароль прыслаў пяты ўказ адсекчы мне галаву...

Скаргардыян. Я служу каралю і выканаў бы яго волю. А што?

Ян. Добра было б, бурмістр, каб вы яшчэ служылі Богу, закону і людзям. *(Хрысціць бурмістра, той цалуе яму руку.)*

Усе суддзі выходзяць. Скарына абдымаецца з Раманам і Мацеем, потым з Янам. Вартаўнік прыносіць мантыю.

Вартаўнік. Выходзьце, панове, а мы з доктарам пераапранемся...

Усе выходзяць. Скарына скідае лахманы, надзявае мантыю.

Скарына. Ну, і як яна мне? *(Паварочваецца перад Вартаўнікам.)*

Вартаўнік *(у захапленні)*. У рыхт! У самы рыхт!.. *(Заклапочана.)* Толькі ў мяне адна закавыка. Не ведаю, ці й казаць... каб настрой не псаваць...

**Скарына.** Выкладвай — не мучайся.

**Вартаўнік** *(вымае з кішэні пярсцёнак)*. Чмут адзін пярсцёначак во даў. Адкрый, кажа, вечка і тое, што там убачыш, падсып у ваду вязню Скарыне. Калі, маўляў, загнецца, пярсцёнак сабе пакінеш і зверху яшчэ грашыма атрымаеш. Адмовіцца не рашыўся — вельмі ўжо чмут прасіў...

**Скарына** *(занепакоена)*. Хто яшчэ пра гэта ведае?

**Вартаўнік.** Я, ён, а цяпер яшчэ і вы... пан доктар.

**Скарына.** Збірайся ў дарогу, і ўсёй сям'ёй. Не жыць табе больш у Познані. Адпомсцяць!

**Вартаўнік.** Я і сам ужо хацеў з табой прасіцца. Што мне гэта Познань?..

Скарына абдымае Вартаўніка.

Скажу табе шчыра — былі ў мяне сябры што трэба, але каб такія, як ты...

**Скарына** *(напаўжартам)*. Ну, гара з гарою не сыходзяцца, а палачаніну з палачанінам чаму ж не сысціся?..

**Вартаўнік.** Дык і я ж тое...

Выходзяць.

*Сцэна зацямняецца.*

## XVII

Кракаў. Кароль **Жыгімонт** пры ўсіх каралеўскіх атрыбутах. Ён дыктуе свой чарговы ўказ адносна Скарыны.

**Жыгімонт.** «...Далучаючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дарадчыкаў і лічачы вартай даверу дабрачыннасць... і ўменне...

Францыска Скарыны з Полацка, доктара мастацтваў і медыцыны, ды жадаючы дзеля гэтага адарыць яго асаблівай нашай ласкай, мы знайшлі патрэбным даць яму гэтыя льготы і прывілеі. Яму мы іх даём і пастанаўляем гэтай граматай наступнае:

Няхай ніхто, апрача нас саміх альбо спадчыннікаў нашых, як у Каралеўстве, так і ў Вялікім княстве Літоўскім... і ў іншых уладаннях нашых не мае права прыцягваць яго да суда і судзіць, якой бы ні была важнай ці нязначнай прычына яго выкліку ў суд.

Аказваючы доктару Францыску такую ласку, мы гэтым самым адказваем за яго поўную бяспеку і бяром яго пад нашу ахову і апеку з тым, каб з іх дапамогай ва ўсіх месцах нашага Каралеўства, раней згаданага Вялікага княства Літоўскага нашага, і ў іншых уладаннях нашых ён быў абаронены ад усякага насілля з боку розных асоб. І няхай ніхто не адважыцца затрымліваць альбо арыштоўваць яго самога ці яго маёмасць пад страхам цяжкай кары паводле нашага асуджэння.

І няхай прыгаданы доктар Францыск у тым горадзе і ў тым месцы, якія ён сабе выбера для жыхарства, будзе вызвалены і свабодны ад усякіх павіннасцей і гарадскіх службаў...

Аднак, каб названы доктар Францыск Скарына мог свабодней і паўней карыстацца тымі прывілеямі ды льготамі, якія мы яму міласціва ўчынілі, мы даручаем і настойліва загадваем гэтай граматай усім і кожнаму:

Дайце названаму доктару Францыску, якога мы прынялі пад сваю апеку, магчымасць карыстацца і валодаць вышэйпрыгаданымі правамі, ільготамі і прывілеямі і абыходзьцеся з ім з захаваннем іх.

Не смейце наогул умешвацца ў яго справы, якія б ні былі яны важныя ці нязначныя, учыняць яму якое-небудзь насілле...

І няхай ніхто з вас не адважыцца на гэта пад страхам кары адпаведна нашаму меркаванню, як сказана вышэй.

Гэта мы жадаем давесці і даводзім да ведама ўсіх і кожнага, каго гэта датычыць.

У пацвярджэнне граматы прыціснута наша пячаць».

*Сцэна зацямняецца.*

Да рампы падыходзяць Скарына з Вартаўнікам. Яны абодва ў дарожнай вопратцы.

Скарына. Позна... Позна, ваша святая Каралеўская Вялікасць. Спалены не толькі кнігі і друкарня, спалены і масты. Нарадзіўся я, відаць, зарана на сваёй шматпакутнай зямлі. Паспяшаўся стаць прарокам у сваёй Айчыне. І хоць еду прэч, на яе, любую і гаротную, не крыўдую.

*Заслона*

*1990*